

Крывец пратэстуе →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Олень по бору ходіт →5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 30 (2985) Год LVIII | Беласток, 28 ліпеня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Музыка, месца, ідэя, людзі. Ёсць шмат повадаў, для якіх фестываль у Барыку прыцягвае штогод прыхільнікаў з Польшчы і Беларусі. Калі для адных прысутнасць на „Басовішчы" гэта амаль святая традыцыя, другіх прываблівае гурт ці непаўторная атмасфера. Арганізатары кажуць: ставім на шматкультурнасць, прыбылыя: сёлета „Басы" адметныя.**

# XXIV „Басовішча" нанова

У падгарадоцкім Барыку ўжо дваццаць чацвёрты раз адбыўся фестываль „Басовішча". На гэтым кусочку Кнышынскай пушчы выказвалася, перадусім у музычным плане, шмат культавых беларускіх гуртоў, якія часта не маюць магчымасці зрабіць гэтае ў сваёй краіне. Яны цягам чарговых выпускаў фестывалю разбуджалі публіку рок-музыкай і беларускім словам апазіцыі да лукашэнкаўскай улады. На працягу 24 гадоў „Басы" змяняліся. Памянялася перадусім музыка з панк-рока на лягчэйшыя жанры, што нярэдка сустракаецца з крытыкай удзельнікаў першых „Басаў". Сёлетнія арганізатары, менавіта Фонд „Villa Sokrates", разлічвае, што немагчыма гаварыць аб развіцці фестывалю пры той жа самай музыцы і гуртах.

— Тут трэба „фермент" рабіць. Даваць энергію. Кожны год прапанаваць іншыя рэчы, — адзначыў Юрка Асеннік, арганізатар ды лідар гурту „Zero-85".

Музычная прапанова сёлетніх „Басаў" была сапраўды разнастайнай: панк, на якім выраслі „Басовішчы", рок, але гэта не перашкаджала, каб фанат музыкі рэгэ, рэп ці электронных гукаў знайшоў штосьці для сябе. У пятніцу аматараў беларускай музыкі чакалі выступы гуртоў „Relikt" і „Pomidor/off". Першы — добра вядомы падляшскай публіцы, другі — найбольш распазнавальны, дзякуючы харызматычнаму Аляксандру Памідораву, які ў гэтым годзе таксама быў вядучым фестывалю. Апрача таго, беларуска-польскі дуэт „Кінёр&Забелаў", дзе беларус, Ягор Забелаў, з'яўляецца сапраўдным майстрам ігры на акардэоне. Першымі выступілі пераможцы конкурсу „Басовішча-2013" — гурт „Ілі-Ілі". На сцэне ў Барыку не магло не быць гурту з роднага Падляшша. Так як і ў мінулым годзе беларускую сцэну з нашага боку прадстаўляў гурт „Ilo&Friends". У пятніцу публічнасць разагравалі таксама польскія групы, у тым ліку „Masala Soundsystem", „Kim Nowak" і „Died Moroz Convention". Суботні вечар гэта заўсёды найбольшая эмоцыі і музычныя неспадзяванкі. Пачаў канцэрт, адзначаны ў конкурсе „Басовішча-2013", гурт „Оршак". На многіх вялікае ўражанне зрабіла таксама маладая група „Дзецюкі" з Гародні, якая сёлета мела свой дэбют на „Басовішчы". Каб не было аднастайна, пасля неўтаймоўных гарадзенскіх хлопцаў на сцэну выйшаў „Клезмер-аркестр" Сейненскага тэатра. Магчыма Барык не бачыў яшчэ так элегантна апранутага гурту на працягу 24 гадоў існавання „Басовішча". Натоўп людзей сабраўся перад сцэнай у час выступу Вінсэнта (Дзмітрыя Папко). Заіграў таксама гурт „Акутэ", украінская „Пэркалаба", „Indios Bravos", а на самае завяршэнне выступаў на вялікай сцэне можна было пачуць сусветную беларускую зорку „The Toobes".





Фота А. Трубкін

Музычная і культурная разнастайнасць сёлетніх „Басаў" прыцягнула многа людзей, якія першы раз з'явіліся на фестывалі ў Гарадку. Павал і Агнешка з Сопата, хаця чулі аб „Басовішчы", яшчэ ніколі не мелі магчымасці пабываць на беларускім фестывалі:

— Нас аж сюды прыцягнуў гурт „Пэркалаба", — адзначыў Павал. — Але думаю, што гэта не будуць нашы апошнія „Басы".

Аднак некаторым у гэтай разнастайнасці не хапала галоўнага — беларускіх гуртоў. „БН", „Нейра Дзюбель" — гэта рок-групы, якіх перадусім не хапала ўдзельнікам сёлетніх „Басаў". Паводле арганізатара, Юркі Асенніка, які адказваў за музычны бок сёлетніх „Басаў", гурты былі так падабраныя, каб прыцягнуць як найбольшую колькасць удзельнікаў.

— Мы ўзялі ўсе беларускія гурты, якія на сённяшні дзень прадстаўляюць высокі артыстычны ўзровень. Самыя цікавыя, самыя важныя, — кажа Юрка Асеннік. — Трэба таксама памятаць аб гэтым, што фестываль адбываецца ў Польшчы і публіка таксама прыязджае польская. Адным больш распазнавальным беларускім гуртом для польскага гледача з'яўляецца „The Toobes", іншыя ўжо не так. Мы патрабуем зорак, каб адбудаваць пазіцыю фестывалю, прыцягнуць народ.

Народ, як аказваецца, асабліва шматгадовыя ўдзельнікі „Басаў", прыязджаюць не толькі для гуртоў.

— Шчыра? Я сюды еxаў і не ведаў каго буду слухаць, — кажа Аляксандр з Мінска. — Я еxаў выключна дзеля таго, каб сустрэцца з людзьмі, якіх я ведаю дзесяць-пятнаццаць гадоў, але не сустракаю іх у Беларусі. Шкада, што няма нікога з беларускага „олдскулу" — такіх гуртоў як „Н.Р.М.", „Крама", „Уліс".

Змены, паводле вядомага беларускага мастака, шматгадовага ўдзельніка „Басаў", Лёніка Тарасэвіча, хаця на пачатку выклікаюць непакой, з часам будуць прынятыя, як шлях да развіцця „Басовішча".

— Ёсць людзі, якія цэлы час жывуць мінулымі „Басамі", першымі, — кажа мастак. — Але так як у выпадку тэлебачання, легінсаў або гурту „Брага", пройдзе некалькі гадоў і людзі даспеюць і нават найбольш кансерватыўныя таксама па тое сягнуць. Рэчы, якія адбываюцца вакол „Басаў", сведчаць толькі аб развіцці нашай грамады, калі ідзе пра культурны план. Мы толькі пры песні, пры сцэне ўжо стаяць не будзем.

Галоўны арганізатар Павал Грэсь адзначыў, што „Басы" гэта ўжо не толькі маніфест музычнай свабоды, але таксама свабоды мастацкай, аб чым сведчаць паказы фільмаў ці перфарматыўныя акцыі, якія спаджарожнічалі фестывалю. Арганізатары ўпэўненыя, што „Басы" ідуць у добрым напрамку.

— Маем добры музычны фестываль, які арганізуюць беларусы і запрашаюць сваіх братоў з Украіны, Польшчы, — адзначыў Юрка Асеннік. — Мы тут, нягледзячы на розныя нацыяналістычныя настроі ў Польшчы, невыпадкова запрасілі „Пэркалабу", невыпадкова пачулі клезмерскую музыку. Тая інфармацыя, якую мы высылаем у свет, вельмі пазітыўная. Мы будуем.

**Уршуля ШУБЗДА**





# Паштоўка салідарнасці

У Гародні прайшла акцыя, на якой усе жадаючыя маглі падпісаць паштоўку палітвязням. У Беларусі зараз хоць якія публічныя акцыі, не санкцыянаваныя ўладамі, вялікая рэдкасць. Лягчэй пераскочыць самога сябе, чым атрымаць дазвол на пікет або шэсце. Ну а правядзенне акцый без адпаведнага дазволу можа акурат паспрыяць павелічэнню колькасці палітвязняў за кошт тых грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія, пакуль што, толькі падпісваюць паштоўкі палітвязням.

Таму неабыякавыя да лёсу сваіх суайчыннікаў беларусы ўсё часцей шукаюць такіх форм грамадскай актыўнасці, якія цяжка падвесці пад якое-небудзь парушэнне. І разам з тым гэтая дзейнасць дастаткова эфектыўная, бо зберагае галоўныя рэчы, з якіх і пачынаецца нацыянальная свядомасць і беларускае адраджэнне. Адна з такіх рэчаў — салідарнасць. І масавае падпісанне вязням паштовак — не што іншае, як праява гэтага чалавечага пачуцця.

Жадаючыя падпісаць паштоўку таксама знайшліся. Хтосьці падпісваў адну і хуценька зыходзіў, а іншыя падпісвалі некальким чалавекам, або ўсім. Многія дзяліліся сваімі думкамі. Некаторыя задавалі пытанні, выказвалі свае эмоцыі.

— Не магу зразумець, як чалавека можна пераследаваць за яго перакананні, — разводзіць рукі сталага веку эмацыйны мужчына. — Як гэта нейкі грамадзянін Рэспублікі Беларусь можа пераследаваць гэткага ж грамадзяніна той жа Рэспублікі Беларусь?! Кожны ж з іх мае такія ж правы! Такія самыя! Бо абодва нарадзіліся на адной і той жа зямлі, якая абодвум належыць аднолькава па праву гэтага ж нараджэння!

— Можа хто ведае, ці выпусцяць зараз каго з іх на волю? — пытаецца жанчына, спадзеючыся, што хтосьці з прысутных арыентуецца ў сітуацыі больш за яе. — Вось жа і з міністра нашага знялі санкцыі і пусцяць у Еўропу. Можа гэта неяк паўплывае на рашэнне па вызваленню гэтых людзей?

— А скажыце, колькі іх асталося? — цікавіцца маладая дзяўчына. — І вось я чула, што праваабаронцы прызнаюць палітвязнямі не ўсіх, а толькі тых, якія адпавядаюць нейкім крытэрыям. Можа хто можа распавесці пра тыя крытэрыі?

— Ну вось за што гэтаму маладому хлопцу накінулі яшчэ адзін лішні год? — шчыра здзіўляецца яшчэ адна кабета, якая зайшла ў спешцы, пільна паўзіралася на прысутных, і, атрымаўшы на сваё пытанне ажно некалькі адказаў, падобных па сутнасці, але адрозных па змесце, хутка падпісала паштоўку і гэтак жа хутка выйшла.

— А за гэта мне нічога не будзе? — непакоіцца невысокі мужчына, і пачуўшы ў адказ „будзе" ўсё адно падпісвае паштоўку з трохі напалоханым, але поўным гонару ад здзейсненага ўчынку выразам твару.

— А ці дойдуць нашы паштоўкі да адрасатаў? — ні то ў прысутных, ні то сама ў сябе пытаецца кабета з дзіцём. І ў яе голасе адчуваецца шчыры непакой. Маўляў, знайшла ў сябе адвагу зрабіць гэты ўчынак, дык хоць бы не прапаў ён марна. — Мы ж аніяк не зможам праверыць ці дайшлі паштоўкі да тых, каму яны адпраўлены. Я вось і зваротны адрас напісала, — ганарыцца сваёй смеласцю. А далей маркоціцца: — Калі мне адпішуць, то я буду ведаць, што ліст дайшоў, а як не адпішуць, то і не даведаюся ніколі.

— Я адразу сумняваўся, што справа тут у нявылпаце, — сцвярджае незнаёмы дзядзька.

Але большыня прыйшоўшых добра ведаюць адзін другога. Вітаюцца, размаўляюць, абмяркоўваюць нешта, жартуюць. Зазіраюць у тэксты сяброў, пытаюцца як лепш напісаць, даюць парады. Усе жадаюць асуджаным хутчэйшага вызвалення, пішуць, што ганарацца імі.

Сённяшняя ўлада адмаўляе сам факт існавання ў Беларусі палітычных вязняў. І абвінавачвае ў прадузятасці да гэтага пытання ўсе тыя і міжнародныя, і айчынныя структуры, якія дбаюць пра людзей, што апынуліся за кратамі з-за сваёй грамадзянскай пазіцыі. Улада сцвярджае, што ўсе яны асуджаны за крымінальныя злачынствы. Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі беспрапынна даводзяць гэтую пазіцыю да грамадзян краіны.

Але падпісаных паштовак на сталe ўсё больш. Грамадзяне публічна, праз паштоўку, выказваюць сваё меркаванне.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Смешна, то-бок нясмешна



Гэта смешна. Гэта значыць нясмешна. Але і нястрашна, бо — страшнавата. Таму што яшчэ можна нешта змяніць у добры бок. Ёсць яшчэ час для гэтага. Праўда, гэта толькі апошняя секунда да незваротнага ў наступствах выбуху, але ўсё яшчэ можна задушыць дапальваючыся дэтанатар. Ды, давайце, не марудзьма. Беласток ужо адбегся ўперад ад іншых гарадоў па ліку злачынных дзеянняў на расісцкай і нацыяналістычнай глебе. Аднак, большасць вінаватых не выкрылі. І нават калі былі яны выяўлены,то ў ходзе пракурорскага разгляду адмовіліся ад іх пераследу з-за «малой грамадскай шкоднасці вынікаў дзеяння». Па той жа прычыне нейкі Рашкоўскі, беластоцкі пракурор, значыць, дзяржаўны чыноўнік, заявіў ад імя польскай дзяржавы, што нацысцкая свастыка з'яўляецца дэкаратыўным элементам. І супердурня, які ўпрыгожваў публічныя месцы сімвалам грамадскай пагарды і нянавісці, палічыў вулічным мастаком і звольніў ад крымінальнай адказнасці. І нават матэрыяльнай. Ну хай там закон, які ўжо даўно точыць рак заканадаўчага самаадрачэння, хай там хворае правасуддзе, абцяжаранае карпаратыўным аўтызмам і інстытуцыянальнай беспакаранасцю, але каб з уладальнікаў запэцканых ёлупнем будынкаў спаганяць кошты іх перафарбавання — гэта ўжо грубае перабольшанне. І гэта з'яўляецца вынікам рашэння пракурора. Вызваляючы правапарушальніка ад адказнасці, тым самым на ахвяр перанёс ён абавязак ліквідацыі свастык. І павінны яны зрабіць гэта як мага хутчэй. У адваротным выпадку могуць быць абвінавачаны ва ўпартым прасоўванні крымінальных знакаў.

У святле польскага закону ўсхвальванне ў любой форме нацысцкай або фашысцкай ідэалогіі і сімволікі з'яўляецца злачынствам. Аднак злачынства няроўнае злачынцу. Пакурор Рашкоўскі здзейсніў злачынства недагляду пераследу, якое павінен афіцыйна разглядаць, і волас з яго галавы не ўпаў. Яго беспакаранасці, ахоўванай пракурорскім імунітэтам, абараняюць яго калегі — з Пракурорскай палаты. У іх гаворка зусім не пра добрае імя Рашкоўскага, але недатыкальнасць расцягнутага на яго імунітэту. Часткова выключае ён Рашкоўскага і кожнага пракурора або суддзю з-пад дзеючага заканадаўства. Вядома, пры асаблівых умовах. Тым не менш, яны простыя як структура цэпа. Як, дарэчы, і сам імунітэт — недатыкальнасць. Яго ідэя заключаецца ў ахоўванні пракурорскай або судзейскай незалежнасці ад знешняга ціску, які звязваецца з бягучай палітычнай ці ідэалагічнай сітуацыяй дзяржавы. Але і ад унутранага і натуральнага прэсінгу, уфармаванага асабістымі светапоглядніі і этычнымі сімпатыямі саміх пракурораў і суддзяў. У абодвух выпадках імунітэт неабходны ім для нармальнага функцыянавання, але пры ўмове, што яны трымаюць у сіле вяршэнства закону і правілы крымінальнага кодэксу. Толькі што тая літара права ў выніку палітычных змен да гэтага часу не можа знайсці сябе месца ў рассыпаным алфавіце неахайных законапраектаў. Гэта не без віны заканадаўцаў, то-бок, Сейма і Сената. Значыць, дэпутатаў і сенатараў. Не абышлося і без віны дзяржавы, абавязкам якой сачыць за выкананнем заканадаўчай формы на практыцы. Непаслядоўны і нелагічны закон пакідае па сабе юрысдыкцыйны беспарадак. Пра гэта сведчаць судзейскія і пракурорскія прамашкі, якія штораз часцей адбіваюцца траўматычнай ікаўкай на ўсім грамадстве. Пра гэта сведчаць рашэнні Міжнароднага суда, якія прыгавораюць польскую дзяржаву на шматмільённыя кампенсацыі ахвярам шкоды з боку дзяржавы. Балаган несправядлівы ў адносінах да іх. Не абараняе іх канстытуцыйны імунітэт раўнапраўнага трактавання ў адпаведнасці з законам. Балаган носіць сістэмны характар. Не нясуць за яго адказнасці выключна пракуроры або суддзі. Імунітэт з'яўляецца іх адзіным шчытом. Так што змагаюцца за імунітэт Рашкоўскага больш заядла, чым абісінскія львы за падлу казла перад натоўпам галодных гіен. Мера польскага закону — закон бушу. Хто не абароніць сваю здабычу, загіне. Усё ж я занепакоены гэтым стаўленнем. Адзін карыстальнік фейсбука (поўнае імя вядомае аўтару), так гэта абагульніў: «....толькі фашысты абараняюць свастыку і права выкарыстоўваць яе. Калі так, дык супраць следчага пракурора Рашкоўскага павінна быць узбуджана расследаване за прасоўванне фашысцкай ідэалогіі. А калі трэба — супраць яго калег пракурораў, якія яго абараняюць. Фашысты і дэбілы не могуць выконваць закон Рэчы Паспалітай». Я дадам ад сябе: А які закон? Якой дзяржавы? Якой Рэчы Паспалітай?

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Актава ў шосты раз



У шосты раз адбываецца Падляшская актава культур — Міжнародны фестываль музыкі, мастацтва і фальклору. У яго рамках да 28 ліпеня ў 22 мясцовасцях Падляшша выступіць больш за пяцьсот мастакоў з адзінаццаці краін, у тым ліку з Беларусі. У гэтым годзе перад інаўгурацыяй арганізатары, то-бок, Ваяводскі асяродак анімацыі культуры (ВААК), абвясцілі: „Наш фестываль з'яўляецца найбуйнейшай культурнай падзеяй у рэгіёне, які выводзіцца непасрэдна з традыцыі даўняй Рэчы Паспалітай шматлікіх культур, рэлігій, нацый. Станоўчыя водгукі пра фестываль, выяўлены як з боку ўдзельнікаў, а таксама спектатараў і міжнароднай аўдыторыі, ставяць яго ў радзе самых важных падзей гэтага тыпу ў Еўропе. Поспех мерапрыемства з'яўляецца таксама вынікам беспераріннага пашырэння рэгіянальнага і міжнароднага супрацоўніцтва, удзелу ў арганізацыі органаў мясцовага самакіравання, устаноў, грамадскіх арганізацый, спонсараў і мастакоў. Гэтае супрацоўніцтва прыводзіць да росту прывабнасці рэгіёна сярод мясцовых жыхароў і шматлікіх турыстаў". У гэтым годзе праект будзе каштаваць 650 тысяч злотых, не лічачы грошай спонсараў, а толькі датацыі Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства (550 тыс. злотых) і беластоцкай мэрыі.

— Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны ў гэтым годзе адмовілася прызначыць субсідыі для фестывалю. Я не ведаю чаму, — панаракаў на прэс-канферэнцыі папярэджваючай імпрэзу дырэктар ВААК, а заадно кіраўнік фестывалю, а таксама аўтар праекта, сцэнарыя і рэжысёр Анджэй Дырдал. — З боку некаторых гарадскіх чыноўнікаў (беластоцкіх — М. Х.) мы зноў адчулі неразуменне. Два спонсары не атрымалі дазволу на размяшчэнне рэкламы на аўтамабілях, якія мелі стаяць на вуліцы пры ратушы (там звычайна ў Беластоку ставяць сцэну — М. Х.).

Дарэчы, дырэктар Дырдал нагадаў, што ў мінулым годзе арганізатары фестывальнай барацьбы мелі праблемы з устаноўкай пры ратушы палатак-гардэробаў. Прадстаўнікі муніцыпальнай улады прапанавалі ўсталяваць іх непадалёк вуліцы Заменгофа, таму што месца пры гэтым аб'екце было здадзена ў арэнду піўному агародчыку. Таму ВААК вырашыў заплаціць уладальніку агародчыка за тое, каб „згарнуў інтарэс" на час мастацкіх прадстаўленняў. У ходзе канферэнцыі падляшскі маршалак Яраслаў Дважанскі спытаўся ў Анджэя Дырдала: „Вы не думалі, каб перамясціць фестываль пад драматычны тэатр?".

Дырэктар сказаў: „Не, таму што людзей прыцягвае цяперашняе месцазнаходжанне імпрэзы".

Дадаў:

— Не атрымалася па фінансавых прычынах арганізаваць у гэтым годзе такіх сенсацый, як меркавалася. Заявілася больш за 120 калектываў. Выступіць 26, прылічваючы таксама нашы. Напрыклад, з Мінска хацелі прыехаць дваццаць дзве групы, будуць дзве.

Беларусь будзе прадстаўлена капэлай духавых народных інструментаў „Гуды" Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў у Мінску і сталічным ансамблем „Сунічка-Скавыш" Цэнтра пазашкольнай працы „Кантакт". Этнограф і культуролаг, старшыня мастацкага савета фестывалю Зыгмунт Цясельскі перад інаўгурацыйным парадам ансамбляў па вуліцах Беластока пераконваў:

— Наш фестываль сам па сабе не мэта, а сродак, каб паказаць шмат культур. Сутнасцю фестывалю з'яўляецца садзейнічанне талерантнасці. Я вызначаю талерантнасць не як „любіце адзін аднаго", а „давайце жыць разам". Фальклор у свеце становіцца ўсё больш важным, а ў нас да гэтага часу асацыюецца з саломай у абутку. На гэтыя песні трэба глядзець як на творы Баха, Тэлемана і Гайдна, каб не мець калісь дачынення з гэтым відам мастацтва як з археалагічнымі артэфактамі.

Дырэктар Дырдал падкрэсліў: „Калі ёсць задавальненне ўлад і грамадскасці, варта працягваць гэты фестываль".

Патранат над Падляшскай актавай культур трымае „Ніва" .

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Крывец пратэстуе супраць біягазавага комплексу!

— Ой! Ратуйце нас мілыя, ратуйце! — загаласіла старэйшая цётка. Гэта быў адказ на пытанне пра біягазавы комплекс, які мае ўзнікнуць у Крыўцы, што ў Нараўскай гміне.

Спалох, які наклікала гэтая мадэрная інвестыцыя, не ўзяўся з чыстай прапаганды. У іх вёсцы, распаложанай у маляўнічым прыпушчанскім куточку, ад гадоў пакутуюць ад ядавітага смуроду, які нясецца раней ад свінарніка, а зараз ад птушкаферамы, якая знаходзіцца пры самым сяле, у хлявах, што асталіся ад раскінутага калгаса.

— Раніцай, як адтуль павее, то такі смурод, што не вытрымаць, — старэча заламала рукі. — Няма куды схавацца, хоць ты ў зямлю жыўцом закапайся...

Бабуля не хацела паверыць у карысці, якія мелі б атрымаць жыхары Крыўца ад біягазавага комплексу.

— Будзе яшчэ больш смурод і столькі ўсяго!

У магазіне, размешчаным у прыватнай хаце, усе размаўляюць па-польску. У маладога сужонства, якое зрабіла ўжо пакупкі, пытаем пра іх меркаванне наконт экалагічнай пабудовы.

— **Nie trzeba nam tu dodatkowego smrodu**, — пратэстуе пані Бася. Ведае як гэта брыдка пахне. Фірма „Green Energy Sp. z. o.o.", якая хоча пабудаваць у іх біягазавы комплекс, арганізавала для людзей з Крыўца экскурсію ў Балешын, дзе ўжо працуе такі завод перапрацоўкі адходаў. З вёскі толькі восем чалавек паехала. У тым ліку пані Бася.

— **Widziałam to na własne oczy i mnie tam śmierdziało**, — абураецца маладая гаспадыня. — **Przecież to nie pasuje do naszej wioski. Tam, gdzie planują postawić tę biogazownię, żubry przychodzą. To tak ma wyglądać ochrona przyrody?**

— А найгорш, як праз сяло грузавікі з гаўном стануць ездзіць, — уключаецца ў размову яе муж. — Мала што вёску засмуродзяць, то яшчэ ўсе дарогі разаб'юць. Не будзе нават як да доктара з'ездзіць...

* * *

Крывец у даабедні ліпеньскі будзень драмаў і здаваўся абязлюдженым. Толькі ў адным канцы вялікага сяла на лавачцы выседжвалі дзве суседкі.

Праўда, раніцай тут адбылася авантура. Прыязджала паліцыя, каб навесці парадкі ў адной агрэсіўнай сямейцы. Але там не ўпусцілі ахоўнікаў правапарадку ў хату, засунулі ім перад носам дзверы. Тыя пастаялі і ад'ехалі...

— Бяда і ўсё, — кажа пра здарэнне пенсіянерка, што выседжвала на лавачцы. — Няма што пра такіх гаварыць. Да ніякай работы ў іх рукі не прыстаюць, а да бойкі першыя...

Зараз на іх панадворку, схаваным за высокім плотам, нехта забаўляўся бензапілой. Назойлівы гул прылады мяшаўся з крыкамі і лямантамі, якія даляталі з хаты і панадворка.

На іншым панадворку старэча вытрасала ходнікі. На пытанне, што добрага чуваць, мы пачулі знаёмы адказ:

— Бяда!

Жанчына прыйшла прыбраць перад святам у хаце брата.

— Бо братавая ўжо некалькі гадоў цяжкахворая, ляжыць у пасцелі, дык мусова прыйсці, дапамагчы.

Хоць справа біягазавага комплексу не надта яе цікавіла, бабуля падпісалася супраць інвестыцыі. Як усе жыхары Крыўца.

— А ці гэта штось дасць? — сумняваецца ўголас.



Солтыс Ірэна Хадакоўская

Нягледзячы на дэпрэсіўны настрой мясціны, жыхары аднназначна запратэставалі супраць планаванай пабудове.

— Каб гэта рабіла гміна і свае людзі, — кажуць у Крыўцы, — то людзі можа і не так баяліся б. А як тую „газоўню" адкупіць які немец? І стане з цэлай Еўропы падлу прывозіць і паліць пад носам?

* * *

Каля будынка старой школы, дзе сёння знаходзіцца асяродак праваслаўнай моладзі, цішыня.

— Шкада, што ў сераду не прыехалі, — кажа маладзіца з хаты, што насупраць, — бо тады архімандрыт Гаўрыіл прымае. Парады дае. Зёлкі прыпісвае.

Спачатку жанчына адказвае нам на польскай мове, пасля загаворыць пасвойму.

— То ў вас у Крыўцы ўжо ўсе маладыя па-польску гавораць? — пытаем.

— Я сама родам аж з-пад Лодзі, — просіць прабачэння жанчына, — ды яшчэ як след не паспела навучыцца размаўляць як у вёсцы.

У Крыўцы найбольш падабаецца ёй спакой.

Звычайна ў падляшскіх вёсках прыезджыя хваляць яшчэ чыстае паветра, ну, але ў Крыўцы пра такое не выпадае...

— Падкажыце што нам рабіць, як бараніцца, — кажа Крыстына Хадакоўская, солтыс вёскі.

Хоць пратэст падпісалі 83 асобы, ніхто не ведае як гэта скончыцца.

Справа пабудовы за іх вёскай біягазавага комплексу з'явілася ў кастрычніку мінулага года. На рукі солтыс прыйшло пісьмо, якое інфармавала пра планаваную навінку.





http://wikipedia.pl

Біягазавы комплекс у Нямеччыне

— Зімой да нас прыехала *пані* з суполкі „Green Energy Sp. z. o.o." і яна распавяла нам што гэта мае быць. Мы былі здзіўлены, што пра гэтую інвестыцыю не ведалі ні гміны, ні павятовы радныя. На сустрэчы нават не было нашага войта.

Крыстына Хадакоўская хацела на ўласныя вочы пабачыць як працуе біягазавы комплекс. З вёскі на экскурсію ў Балешын, што каля Ольштына, паехала восем асоб.

— І якія ў вас уражанні?

— Мне там спадабалася, — кажа, — але ў нас гэта не спрацуе.

— Чаму?

— Таму, што тут пад пушчай людзі павінны думаць пра агратурызм, а не пра свінагадоўлю ці фермы індыкаў. Якая для нас карысць, што сюды хтось прыедзе са свету, будзе зарабляць сабе грошы, а нам застануцца адно знішчаныя дарогі.

* * *

— На сённяшні дзень мы вядзем перагаворы, каб біягазавы комплекс узнік не ў Крыўцы, а ў іншым, аддаленым ад людскіх сяліб, месцы, — кажа Андрэй Пляскові̌ч, войт Нараўскай гміны.

— Фактычна, зрабіць нешта такое ў вёсцы, дзе дажываюць старэнькія людзі, гэта дрэнны выбар, — кажа асоба, звязаная з ахоўай прыроды, якая пажадала застацца ананімнай. Паводле яе, біягазавы комплекс гэта здабытак цывілізацыі, вельмі патрэбны для сучасных фермераў:

— Гнаявая жыжка, якая атрымліваецца як пабочны эфект у свінагадоўлі, вельмі шкодная для раслін, насякомых і жывёл. Калі такі гной выліць проста на поле, дык ён знішчае ўсё жывое. Прытым ідзе ад гэтага невыносны смурод. Дзякуючы біягазавым комплексам, якія перапрацоўваюць жыжку з ферментаванай кукурузай, можна атрымаць не толькі энергію, але і добрае ўгнаенне для раслінаводства.

Мой інфарматар здзівіўся, што ў Крыўцы, дзе працуе птушыная ферма, хочуць будаваць такую інвестыцыю. Якраз птушыны гной не падыходзіць для вытворчасці газатворчых ферментаў.

Здзіўляецца таксама абяцанкай дармовай энергіі:

— То ж раней трэба пакапаць равы, усталяваць газаправоды, і праклсці да дамоў. А гэта час і дадатковыя кошты. Ну, і пацерпіць драўляная архітэктура, якая можа быць козырам пры агратурызме, якім павінны займацца жыхары такой прыпушчанскай вёскі, як Крывец.

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Больш веласіпедных дарожак

У Беластоку з кожным годам прыбывае веласіпедных дарожак. Пару гадоў таму адна з даўжэйшых — яна шматкіламетровая асфальтавая — была пабудавана па вуліцы 27 Ліпеня пры нагодзе перабудовы гэтай артэрыі.

Сёлета пабудуюць 14 кіламетраў дарожак за 2 мільёны злотых. Будзе гэта два разы больш, чымсьці ў мінулым годзе. Зараз будуюць такую паўкіламетровую дарожку ўздоўж вуліц Гарохавай і Чэнстахоўскай. Будзе яна праляі гаць ад скрыжавання вуліц Гарохавай і Каліноўскага да скрыжавання вуліцы Чэнстахоўскай з алеяй Пілсудскага.

Новыя дарожкі пабудуюць на вуліцы Берлінга, Пуласкага, на адрэзку доўгай вуліцы Кавалерыйскай і вуліцы Герояў гета, а таксама на вуліцах Міцкевіча і Баранавіцкай. Веласіпедысты паедуць новай дарожкай яшчэ па вуліцы Пястоўскай на адрэзку ад Варшаўскай да Браніцкага.

Пры ўсім гэтым важна для веласіпедыстаў, каб сцежкі-дарожкі часцей спалучаліся. Іх ужо не задавальняюць толькі кавалкі дарожак. Вось так: едзеш-едзеш а далей што — едзьце сабе або па тратуары, або па маставой? Варта, аднак, адзначыць, што не заўсёды і ўсюды маюцца тэхнічныя магчымасці пабудовы веласіпедных дарожак. Вядома, было б добра, каб па іх можна было спакойна даехаць у цэнтр горада.

У Беластоку ёсць ужо 84 кіламетры веласіпедных дарожак. Зараз плануюць пабудову чарговых, між іншым, уздоўж вуліцы Браніцкага (на адрэзку ад Ажэшкі да Пястоўскай), Каляёвай і Кнышынскай, Радзымінскай, Сянкевіча і Васількоўскай. На вуліцах Мачка і Клеберга дарожкі будуць бегчы паабапал іх.

## З думкай пра птушак

У Беластоку робяць і стаўляюць будкі і платформы для птушак. Зараз у гарадскіх парках у будках жывуць шпакі, дзятлы, сініцы, палявыя вераб'і, блакітніцы ды ад нядаўна няясыцы. Горад намераны павесіць на дрэвах яшчэ будкі для кажаноў. Усё гэта з такой мэтай, каб птушкі і кажаны мелі лепшыя ўмовы. Для качак і лебедзяў, якія жывуць у гарадскіх парках, прыдумалі спецыяльныя платформы, на якіх яны могуць свабодна адпачываць.

Кармушкі для птушак стаяць і вісяць на дрэвах у парку Плянты і на алеі Закаханых. Перш-наперш стаяць яны пры сцяжынках, па якіх гараджане найчасцей ходзяць на прагулку. Кармушкі размешчаны таксама ў Цэнтральным парку, на скверы Тамары Саланевіч, каля плавальнага басейна па вуліцы Влукеннічай, на скверы па вуліцы Міцкевіча, у парку Антонюк і ў парку Браніцкіх побач помніка сабаку Кавеліна.

## Х Агляд рэлігійнай песні

У днях ад 15 да 17 лістапада гэтага года ў царкве ў Сямятычах адбудзецца юбілейны Х Агляд рэлігійнай песні. Арганізуе яго Дэканальны інстытут праваслаўнай культуры ў Сямятычах пры супрацоўніцтве з Гарадской управай, Сямятыцкім асяродкам культуры ды мясцовымі праваслаўнымі парафіямі.

Зацікаўленыя ўдзелам у аглядзе хары ды парафіяльныя і свецкія калектывы павінны падаць свае заявы ў Інстытут праваслаўнай культуры ў Сямятычах да 21 верасня г.г. Дэталёвую інфармацыю пра гэтае мерапрыемства можна знайсці ў інтэрнэце на сайце: www.parafia.siemiatycze.org **(яц)**

# Кірмаш з народнымі творцамі і музыкай

14 ліпеня выпала святкаванне ў гонар Усіх святых Беларускай зямлі. У гэтую ж нядзелю святары і вернікі маліліся ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы да нябесных заступнікаў Беларускай зямлі, хор прасляваў малітву за беларускі народ. Пасля поўдня ў гайнаўскім амфітэатры і гарадскім парку адкрыўся «Кірмаш зубра», які гайнавянам даў магчымасць святочна і прыемна правесці час, а таксама купіць здаровае харчаванне, рукадзелле і сучасныя мастацкія вырабы. Аднак у час кірмашу найбольш людзей прыцягнулі выступленні калектываў.

— Я ўжо зрабіў вялікія пакупкі харчавання, адвёз іх дамоў і вярнуўся з жонкай на кірмаш, каб адпачыць з музыкай, — сказаў былы дырэктар Гайнаўскага белліцэя Васіль Дамброўскі.



«Ручаёк» з Белавежы

Побач палатак рукадзельнікаў і мастакоў можна было спаткаць бурмістра горада Юрыя Сірака і яго папярэдніка Анатоля Ахрыцюка, гайнаўскага віцэ-старасту Андрэя Скепку і дырэктара Гайнаўскага дома культуры Расціслава Кунцэвіча, які разам з гайнаўскім бурмістрам былі арганізатарамі «Кірмашу зубра».

Зубр — сімвал распаложанай побач Гайнаўкі Белавежскай пушчы. Кірмаш, наладжаны ў гонар гэтай магутнагай лясной жывёліны, ужо добра распазнавальны як на Падляшшы, так і за ўсходняй нашай мяжой. На сёмы выпуск «Кірмашу зубра» прыбылі народныя творцы з Падляшша і прыгранічных раёнаў Рэспублікі Беларусь. Дырэктар Расціслаў Кунцэвіч удакладніў, што ў гэтым годзе прыбылі таксама літоўцы, якія, даведаўшыся пра гайнаўскі кірмаш, самі папрасілі згоды на прыезд і продаж у Гайнаўцы сваіх вырабаў.

— Ад нас, з Пружанскага раёна, прыехала б больш народных творцаў, меў прыбыць музычны калектыў, але змаглі прыехаць толькі восем чалавек з-за складанасцей з атрыманнем віз у Польшчу. Зараз вызначаецца нейкі дзень на рэгістрацыю і цяжка з прымяненнем інтэрнэту зарэгістраваць больш асоб на сайце польскай амбасады, нават калі ў нас ёсць адносна хуткія камп'ютары. Тады ж рэгістуюцца жыхары з усёй Беларусі. Напрыклад, рэгістрацыя на візы адбывалася 22 чэрвеня і на працягу некалькіх гадзін быў выкарыстаны ліміт рэгістрацыі на гэты месяц. Раней было лягчэй з атрыманнем віз у Польшчу і мы ў большай колькасці прыязджалі на «Кірмаш зубра». Калі б адкрыўся малы памежны рух паміж Беларуссю і Польшчай, мы маглі б часта прыязджаць у прыгранічную зону ў Польшчу, — расказвала ўсхваляваная жыхарка Пружан.

— Я сама сею жыта, збіраю яго, рыхтую салому і пасля займаюся саломаплеценнем. Свае вырабы прадаю ў час кірмашоў і на культурных мерапрыемствах, на якія мяне запрашаюць. Пастаянна прыязджаю на гайнаўскі «Кірмаш зубра». Тут таксама купляюць мае вырабы. Сёння я крыху менш саломапляцення прадала, але сабраныя тут цікавыя маімі вырабамі — карзінкамі, талеркамі, іконкамі ў саламяных рамках і іншымі прадуктамі з саломы, — сказала Раіса Баюра з Пружанскага раёна, вырабы якой адзначаліся асаблівa старанным выкананнем.

З Брэста прыехалі жанчыны з клуба «Творчасць». Прадавалі яны ўручную вышываныя вырабы і ляльечныя сувеніры.

— У нашых ляльках мы зашываем зёлкі. Яны пахнуць і захоўваюць лячэбныя прыкметы. Іншыя лялькі выконваем дзеля трэніроўкі мышцаў далоні. Аднак найбольш асоб купляе вышываныя ручнікі, якія вешаюць у хатах або дораць у якасці сувеніраў. Нашыя ручнікі купляюць для ўпрыгажэння гастранамічных установ, — гаварыла спадарыня Тамара з групы «Творчасць» з Брэста.

Сярод народных творцаў усё ж такі было найбольш жанчын з Гайнаўшчыны. Галіна Бірыцкая з Плянты традыцыйна прадавала карункавыя і вышываныя вырабы, а Хрысцінія Грыгарук з Орлі прапанавала пасудзіну з паперы.

— Я раней працавала настаўніцай. На пенсіі ўжо дзесяць гадоў займаюся рукадзеллем. Вучыла я вучняў арлянскай школы рабіць пасудзіну падобную да той, якую зараз можна ў мяне купіць, — заявіла Хрысцінія Грыгарук.

Яніна Плева з Гайнаўкі прэзентавала карункавыя фіранкі, абрусы, сурвэты. Ірэна Ігнацюк са Старога Ляўкова вучыла ткаць на кроснах і прапанавала тканыя вырабы, выкананыя рознымі тэхнікамі.

— Зараз людзі шторaз менш цікавяцца жывапісам. Сёння няма Анатоля Краўчука і жывапісца з Беларусі, а ў мяне таксама мала што купілі, — заявіў Мікола Яноўскі са Старога Беразова.

Прычынай меншага зацікаўлення вырабамі народных творцаў было пахмурнае, час ад часу дажджлівае надвор'е. Адных дождж спалохаў, іншыя засталіся да канца мерапрыемства. Пад палаткай, нягледзячы на надвор'е, спосаб выканання кавальскіх вырабаў прэзентавалі Станіслаў Мяжвінскі са сваім памочнікам з Музея кавальства і слесарства. Можна было таксама пазнаёміцца з варштатам працы майстроў па саломапляценню і ганчарстве. Аднак вакол амфітэатра найбольш было палатак, у якіх прадавалася, паводле прадаўцоў, здаровае харчаванне. Дзеткі ахвотна прымалі ўдзел у гульнях у выдзеленым для іх гарадку, а бацькі куплялі ім цацкі і ласункі. Аднак найбольш асоб сабралася ў самім амфітэатры, дзе можна было пачуць беларускія песні ў выкананні вакальна-танцавальнага калектыву «Мілавіца» са Свіслачы і гуртоў з Беласточчыны.

— Нам вельмі падабаецца атмасфера на «Кірмашы зубра». Гайнаўская публіка заўсёды нас так цёпла прымае, бо амаль штогод тут выступаем, — сказала Тацяна Мацкевіч са Свіслачы.

Мне асабліва спадабаўся выступ «Мілавіцы». Удала запрэзентаваліся калектыў «Хутар» з Гарадка, дуэт «Заранiца» з Крынак, дзяўчаты са Студыі песні і танцавальны калектыў «Перапёлка» з ГДК. Цікава выступілі таксама гурт «Ручаёк» з Белавежы і калектыў «Метра» з Гайнаўкі, які моцна заахвочваў да танцаў.

— Сённяшняе мерапрыемства — свята для нашых калектываў, якія маюць магчымасць запрэзентавацца перад вялікай публікай, — сказаў Марк Зубрыцкі, музычны кіраўнік калектыву «Ручаёк».

Шкада, што «Чарамшына» прэзентавалася ўжо пасля дажджу, бо выступіла займальна, але частка публікі ўжо разышлася.

— Мы сёлета пабывалі ў Францыі і маем намер выязджаць яшчэ ў Чэхію, — сказала Марыя Здрайкоўская з «Чарамшыны».



Супольны здымак гасцей з Беларусі з гаспадарамі «Кірмашу зубра», што сведчыць пра ўдалае супрацоўніцтва паміж Гайнаўшчынай і прыгранічнымі раёнамі Рэспублікі Беларусь у рамках Еўрарэгіёна «Белавежская пушча»

На польскай мове выступілі Хор леснікоў і Хор сеніёраў з Драгічына, а паўкраінску заспяваў гурт «The Ukrainian Folk». Сабраныя маглі прыняць удзел у разнародных конкурсах. Госці з Беларусі зрабілі супольны здымак з гаспадарамі «Кірмашу зубра», што сведчыць пра ўдалае супрацоўніцтва паміж Гайнаўшчынай і прыгранічнымі раёнамі Рэспублікі Беларусь у рамках Еўрарэгіёна «Белавежская пушча».

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# «Олень по бору ходіт»

## у Студзіводах, Пухлах, Сацах і Паўлавічах



Дарафей Фіёнік, узяўшы ў рукі касу, стаў з вялікай зацятасцю касіць жыта (ззаду «Падляшанкі»)



Старэйшыя вучылі жаць маладых

Галоўнымі момантамі IX Падляшска-палескіх жніўных сустрэч «Олень по бору ходіт», якія ў гэтым годзе адбыліся 13 і 14 ліпеня ў Студзіводах, Пухлах, Сацах і Паўлавічах, былі зажынкі жыта на палях і спяванне жніўных песень з асноўным творам мерапрыемства «Олень по бору ходіт». У мінулым жыта зажыналася згодна з мясцовымі традыцыямі, якія на Падляшшы і Палессі былі падобнымі і суправаджаліся жніўнымі песнямі. Музей малой айчыны ў Студзіводах і яго старшыня Дарафей Фіёнік многа ўвагі адводзяць сімвалічнаму паляванню на аленя, якое адбываецца згодна зместу песні «Олень по бору ходіт», што і стала назвай жніўных сустрэч. У час гэтага абраду спачатку заклікаецца алень на паляванне, а пасля распасціраецца над жытам пакрывала з вытканым матывам аленя, які з'яўляецца сімвалам удалага палявання. У мінулым паляванне давала мяса на цяжкі перыяд жніва, якое распачыналася прыблізна пасля заканчэння Пятровага посту і святкавання ў гонар апосталаў Пятра і Паўла (12 ліпеня па новым стылі). Удзельнікі жніўных спатканняў адсвяткавалі Пятра і Паўла ў сваіх прыходах на Падляшшы і Палессі ды сустрэліся на полі Дарафея Фіёніка і ў час жніўных канцэртаў, якія Студзіводскі музей наладзіў у Сацах і Паўлавічах з дапамогай Нарваўскага і Мельніцкага асяродкаў культуры і Аддзялення культуры Кобрынскага райвыканкама. Аўтэнтычны фальклор запрэзентавалі на полі, а пасля ў час канцэртных выступаў вакальныя калектывы «Жэмэрва» са Студзіводаў, «Падляшанкі» з Гарадзіска, «Малінкі» з Маліннік і фальклорная група «Балацяначка» з вёскі Балоты з-пад Кобрына. З фальклорнымі песнямі ў Паўлавічах выступілі яшчэ калектывы «Навіна» з Машчоны-Каралеўскай і «Крыніца» з Радзілаўкі.

Сабраныя пайшлі на поле Альжбеты і Дарафея Фіёнікаў у Студзіводах з песнямі і там зажынкі распачаліся з малітваў і асвячэння поля. Мужчыны і жанчыны пілі асвячоную ваду з надзеяй, што Гасподзь дасць ім сілы да цяжкай працы. Першы зажаты сноп паклалі яны на полі ў выглядзе крыжа.

— Гэты сноп будзе ляжаць на полі да заканчэння зажынак. Пасля працы звяжам мы яго і перанясем дамоў, дзе будзе чакаць ажно да Куцці, у час якой паставім сноп жыта ў кутку хаты, пад іконай, і стане ён нашым «госцем». Усё адбываецца тут згодна нашай даўняй традыцыі. У мінулым адны перад працай маліліся доўга, іншыя коратка, але людзі хацелі, каб Бог блаславіў іх працу і ўраджай, — патлумачыў Дарафей Фіёнік, які, узяўшы ў рукі касу, стаў з вялікай зацятасцю касіць жыта. Жанчыны працавалі з сярпамі ў руках і хутка сабраныя сталі перасоўвацца з-пад клуні ў напрамку пралеска. На адной частцы поля жалі жанчыны з вёскі Балоты Кобрынскага раёна, а на другой частцы працавалі жанчыны з Падляшша і амаль цэлы час гучаў спеў.

— Наш народны хор «Балацяначка», ад якога прыехала сюды фальклорная група, быў заснаваны ў 1969 годзе і я з ім выступаю ад самага пачатку, — заявіла Люба Ігнацюк з сяла Балоты і дадала, што ў іх рэпертуары ёсць многа жніўных песень.

— Я па вяселлях 50 гадоў на акардэоне іграў розныя песні. Зараз з калектывам «Балацяначка» выступаю на розных мерапрыемствах і прыехаў у Польшчу, каб і тут зайграць, — сказаў Ян Ляўчук, таксама з Балотаў.

— Са жніўных песень мы спяваем «У нашого пана дзіво», «Наша пані домуе», «Ой чыя то волока» і канешне «Олень по бору ходіт», — заявіла Анна Тэслюк, кіраўнік «Падляшанак» з Гарадзіска. — У мінулым такія творы найбольш спявалі ў час дажынак, калі таксама ўпрыгожвалі перапяліцу і абліваліся вадой. Весела тады было і, нягледзячы на вялікую колькасць работы, часу на ўсё хапала. Зараз у людзей шмат тэхнікі, а часу зусім мала.

На полі сабраліся таксама турысты, частка якіх гэта дзеці выхадцаў з нашых вёсак. Жанчыны вучылі іх рабіць пярэвяслы і паказвалі ім, як звязваць збожжа ў снапы.

— Я прыязджаю ў Студзіводы на мерапрыемствы. Сёння і мой бацька прыбыў сюды. Вучуся жаць і знаёмлюся з іншай працай на полі ў час жніва. Лічу, што варта ведаць свае абрады і навучыцца колішнім палявым работам, — заявіла Ева Звяжынская з Беластока.

Жнейкі і турысты ставілі снапы ў ляшкі і мэдлі. Калі жанчыны з Маліннік, Гарадзіска і Балотаў спявалі жніўныя песні, публіка заўважыла, што песні з Падляшша і Палесся розняцца.

— Мелодыя ўсіх нашых жніўных песень была практычна такой самай, бо галоўнай іх задачай была дапамога ў аднастайнай рабоце ў час жніва, калі жнейкі жалі і спявалі. Песні падбадзёрвалі да работы з сярпамі ў руках, — патлумачыла Альжбета Фіёнік, кіраўнік бельскага «Антракта».

Аднак на полі спадарства Фіёнікаў сабраныя спявалі стоячы і пры гэтым напераменн: то асобы з Падляшша, то жанчыны з Палесся, а іншыя ў гэты час жалі.

— Калі ў мінулым больш асоб працавала на полі, то таксама спявалі ў час работы. Жнейкі пасля інтэнсіўнай працы хацелі адпачыць і, адарваўшыся ад яе, пачыналі спяваць. Калі, выпраміўшыся, рабілі гэта стоячы, то іх арганізмы найлепш тады адпачывалі, лепш, чым у час падседжвання моўчкі. Спеў заахвочваў іншых жнеек да больш інтэнсіўнай працы, — удакладніў Дарафей Фіёнік.

Жанчыны з Маліннік і Гарадзіска паінфармавалі, што ў апошні перыяд працы з сярпамі іх мамы і яны самі ўжо не спявалі на загонах, але спявалі ідучы ў поле або вяртаючыся дамоў, пасля цяжкай работы.

— Я яшчэ працавала з сярпом на полі, навучылася жаць ад мамы. Пазней пачалі ў нас касіць збожжа касілкамі, снопавязалкамі і на канец падмянілі іх камбайны, што адразу і малоцяць збожжа, — сказала Валянціна Троц з Маліннік.

Дадала яна, што «Малінкі» з абрадам «перапяліцы» выступалі ў час агульнапольскіх абрадавых аглядаў. Кіраўнік калектыву «Малінкі» Вера Нічыпарук звярнула ўвагу на вялікае значэнне жніўнага мерапрыемства, якое ладзіць Музей малой айчыны са Студзіводаў.

— У час сённяшніх зажынак, а таксама падчас дажынак з «перапяліцай», сабраныя на полі маладыя асобы могуць пазнаёміцца з цяжкай жніўнай працай, жніўнымі песнямі і нашымі даўнімі абрадамі, пра якія цяпер мала ведаюць. З дапамогай тэлебачання і іншых сродкаў масавай інфармацыі, прадстаўнікі якіх прысутнічаюць тут на полі, большая колькасць нашай моладзі мае магчымасць пазнаёміцца з нашымі жніўнымі традыцыямі, — гаварыла Вера Нічыпарук з Маліннік і ўспомніла, як у іх вёсцы моладзь у мінулым спявала песні ў «панскім садзе».

Пётр Нічыпарук успомніў як у мінулым сталі касіць збожжа косамі, што паскорыла працу ў час жніва ў параўнанні з працай з сярпамі.

— Я, як гаспадыня, даношу ваду на поле і дапамагаю, калі людзі, якія цяжка працуюць, нечага патрабуюць. Калі менш асоб збіралася ў час жніва, гаспадыні працавалі разам з іншымі, з сярпамі ў руках. Бывала, што калі гаспадыня патрапіла хутка жаць, станавілася спераду, каб працаваць хуткім тэмпам і заахвочваць іншых да больш інтэнсіўнай работы, — расказвала Альжбета Фіёнік, а па полі бегалі таксама яе сыны Ілья і Максім. — У мінулым дзеткі збіралі каласы на полі, а калі ўжо крыху падраслі, рабілі пярэвяслы або нават падбіралі збожжа за касцом і клалі на пярэвяслы.

Пасля зажынак на полі сабраныя перайшлі ў клуню, дзе паабедалі і паспявалі. Пазней адправіліся ў Пухлы, дзе ў мясцовай царкве, побач цудатворнай іконы Божай Маці, быў адслужаны малебен. Малітвы ўзначальвалі айцец Рыгор Сасна з Рыбалаў і мясцовы святар айцец Славамір Троц. Пасля мясцовыя, з айцом Славамірам Троцам, і госці пераехалі ў Сацы на поле, дзе зажыналі трыцікале. У Сацах спявалі жніўныя песні і іншыя фальклорныя творы перад публікай з вёскі і суседніх сёлаў. У нядзелю госці з Беларусі памаліліся ў Бельску-Падляшскім, успамінаючы Усіх святых Беларускай зямлі, затым адправіліся на Святую Гару Грабарку, дзе ўстанавілі крыж, прывезены з Беларусі. У Паўлавічах адбыўся вялікі канцэрт з удзелам спевакоў з вёскі Балоты Кобрынскага раёна і калектываў з Падляшша.

— Мы наладзілі цеснае супрацоўніцтва з Мельніцкай гмінай і прыязджаем сюды, каб паказваць наш палескі і падляшскі фальклор. Чакаюць нас тут і ўжо намнога раней гмінныя чыноўнікі дапытваюцца, калі будзем ладзіць нашыя мерапрыемствы. Запрашаюць на выступы ў вёскі Мельніцкай гміны, гарантуючы нам транспарт і іншую дапамогу, — сказаў Дарафей Фіёнік і дадаў, што ў рамках сустрэч «Олень по бору ходіт» будуць яшчэ арганізавацца дажынкі, у час якіх будзе наладжаны абрад «перапяліца».

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## „Цаглінкі" на Пружаншчыне

Аматарскі фальклорны калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова працягвае супрацоўніцтва з калектывамі ў Беларусі. Гэтым разам атрымаў ён запрашэнне ад Пружанскага райвыканкама для ўдзелу ў творчых сустрэчах з народнымі фальклорнымі калектывамі — гуртамі, іх кіраўнікамі, культурна-асветнымі і адміністрацыйнымі работнікамі раёна. Калектыў „Цаглінкі" 22-23 чэрвеня г.г. сустрэўся і выступіў у некалькіх клубах і пляцоўках для шматлікай публікі.

На працягу двух дзён калектыў суправаджалі галоўны спецыяліст аддзела культуры Таццяна Ярошка, метадыст раённага арганізацыйна-метадычнага цэнтра Галіна Махнач і вадзіцель Вячаслаў Бараноўскі.

— З даўніх часоў існуюць творчыя сувязі паміж калектывамі самадзейнасці Пружанскага раёна і калектывамі ў Польшчы. Хор народнай песні „Вербніца", народны тэатр танца „Ойра", народны ансамбль танца „Спадчына", народны хор ветэранаў, народная фалькорная група „Бабіна лета", народны ансамбль песні „Ліцвіны", вакальныя групы „Пружаначка", „Забава", „Смаляначка", „Услада", „Амафор" і іншыя гурты неаднаразова з канцэртнымі праграмамі выступалі на падмостках дамоў культуры ў Гайнаўцы, Нараўцы, Белавежы, Чыжах у час такіх свят як Купалле, Дажынкі, Каляды, — сказала нам Галіна Махнач.

Напачатку „Цаглінкі" наведалі вёску Крыніца, дзе гасцінна сустрэлі іх дырэктар сельскага дома культуры Марыя Бармута і мастацкі кіраўнік Ала Клюкач. Таксама гасцінна сустрэлі іх жыхары вёскі ў час канцэрта ды гучнымі апладысментамі і кветкамі падзякавалі за вельмі добрае выступленне. Падзякаваў ім таксама старшыня Шарашоўскага пасялковага савета і запрасіў яшчэ раз наведаць іх мясціны.

Затым калектыў падаўся ў Лінова, дзе сустрэлі іх члены фальклорнага гурту „Бабіна лета" і гаспадары сельскага дома культуры — дырэктар Сяргей Швед, мастацкі кіраўнік Юлія Гардзіеўская і кіраўнік гурту Святлана Дудзінская. У падзяку за канцэрт стараляўкоўскія самадзейнікі атрымалі мноства апладысментаў і кветак ды сувенір ад гаспадаркі ААТ „Ліноўскае".

Адсюль „Цаглінкі" накіраваліся ў сельскі клуб у Сланімцах, дзе сардэчна з хлебам-соллю і песнямі сустрэлі іх загадчыца клуба Таццяна Немцава і вакальны гурт „Надзея" з акампаніятарам Міхаілам Шайнюком. Доўга гучалі песні і ніхто не заўважыў, як хутка прабег час.

На другі дзень члены стараляўкоўскага калектыву наведалі музей-сядзібу „Пружанскі палацык", парк, стадыён і палац культуры ў Пружанах. Пасля паехалі ў вёску Роўбіцк, дзе сустрэліся з творчым калектывам сельскага дома культуры, які ўзначальваюць дырэктар Таццяна Папко і мастацкі кіраўнік Ірына Параняк. На памяць ад гэтай сустрэчы ад кіраўнікоў класаў народнай творчасці Зоі Самусь і Ірыны Граматовіч ды іх выхаванцаў „Цаглінкі" атрымалі памятныя сувеніры, зробленыя сваімі рукамі. Перад самым ад'ездам для стараляўкоўскіх артыстаў была арганізавана аглядная экскурсія на турыстычны комплекс „Дзікае", што ў вёсцы Клятное Сухопальскага сельсавета.

**Віктар БУРА**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Комікс

Міхася БАБІКА „Галерэя Тамары”

Стоп!!!

Пані Тамара Саланевіч не дазволіць на такі падыход да працы. Маеш быць сумнай.

Кінааператар, кава, хутка!

Я ўжо з імі не вытрымліваю.

Як я яе не люблю!

Як я яе не люблю!

Наступны дзень

Што? Я маю ўвайсці ў такую халодную ваду?

Не наракай, там чакае цябе Вася.

Што? Мне трэба з ім цалавацца? НІКОЛІ!!!

Паглядзі толькі, ён такі прыгожы.

Фуй!

Тады пашукай сабе іншай работы!

Канец.

# Вокны Тамары Саланевіч забітыя дошкамі

Фота Ганны КАНДРАЦЮК




Па вуліцы Аляксандра Валкавыцкага ў Нараўцы, пры скрыжаванні вуліц, мы ўбачылі вялікі панадворак, агароджаны старым, месцамі паламаным плотам. З усіх бакоў ён акружаны дрэвамі, кустамі, кветкамі, травой. Усё зарасло, але між кустоў відаць будынкі, мураваныя хлявы. Уваходзім на панадворак і бачым стары, назначаны часам дом. Вокны забітыя дошкамі, а некаторыя нават выбітыя. Дом накрыты чырвонай, ужо крыху аблезлай бляхай. У глыбі панадворка відаць доўгія хлявы і клуню. Гэтыя забудовы не так моцна знішчаныя як хата. Мы падыходзім бліжэй дому, прадзіраемся праз высокую траву і разглядаемся па баках. У паветры адчуваецца атмасфера суму — так прамаўляе пакінуты дом з вялікай гісторыяй.

— Сюды, у міжваенны час прыязджаў Максім Танк, — пачынае расказ Ганна Кандрацюк. — Класік беларускай літаратуры сябраваў з бацькам Тамары Саланевіч, які быў беларускім патрыётам, арганізаваў у Нараўцы Таварыства беларускай школы.

Разам з прыходам саветаў Міколу Саланевіча арыштавалі за патрыятычную дзейнасць і саслалі ў Сібір. Траўма развітання з дарагім чалавекам ішла з Тамарай Саланевіч праз усё жыццё. Маці Вольга не выйшла другі раз замуж, а гэта значыла адно: ёй самой трэба было абрабляць вялікую гаспадарку. Тамара з малых гадоў дапамагала ў палявых работах маці. Большасць прац жанчыны рабілі рукамі. Яны не прадалі зямлі да канца жыцця.

Пасля смерці рэжысёркі ў 2000 годзе маёмасць была перададзена ў спадчыну чалавеку з Забалотчыны, які дапамагаў ім у гаспадарцы. Цяпер дом выстаўлены на продаж. Хату пакуль ніхто не купіў...

Расказ спадарыні Ганны мы выслухалі ў задуменні. Нам цікава было пачуць, што многія сцэны, звязаныя з сенаваннем і жнівом, былі запісаны на прыватным полі Тамары Саланевіч пад Забалотчынай і каля Грушак. Таксама многія эпізоды фільмаў здымаліся на гэтым самым панадворку, на якім мы зараз стаялі і тапталі траву. Агульнае занядбанне і цьмяная будучыня месца моцна прыгняталі. Мы разглядаліся па баках, быццам шукалі там нейкага выхаду і падказкі...

У канцы мы дайшлі да вываду, што месца трэба ўпарадкаваць. У будынках трэба наладзіць Цэнтр Тамары Саланевіч. Сюды, як за старых часоў, прыязджалі б светлыя людзі, каб гаварыць пра гісторыю і фільмы, звязаныя з Нараўчанскай зямлёй. Але ці гэта рэальнае? Ці сум, які б'е з кожнага кутка на панадворку, пойдзе з дымам? Ці гэта магчымае ў недалёкай або далейшай будучыні?

*„**Галерэя Тамары**" — аўтары: Наталля Васько (Гімназія ў Нараўцы), Эва Авярчук (Гімназія ў КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім), Міхась Бабік (ПШ № 4 у Беластоку), Дамініка Благушэўская і Зузанна Кардзюкевіч (НШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), Юліта Грыка (Гімназія ў Міхалове), Адам Сцепанюк (КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім). Апрацоўка і праўкі: Валянціна Бабулевіч, Іаанна Марко, Уршуля Шубзда. Рэдакцыя тэксту: Ганна Кандрацюк.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



## Куды на канікулы?

Многа людзей прыязджае ў Нараўчанскую гміну, каб тут пабачыць тое, чаго няма ў іншых кутках Польшчы. Тут чыстае паветра, цудоўная прырода і добрыя людзі. У Белавежскай пушчы многа звяроў. Тут бегаюць лісы, зубры і дзікі.

У Нараўцы працуе мастацкая галерэя імя Тамары Саланевіч. Блізка плыве рэчка Нараўка. Ёсць сцэна, на якой адбываюцца канцэрты і конкурсы.

У Семяноўцы можам адпачыць ля вадасховішча, там пляж. На месцы можна гуляць у футбол, тэніс або валейбол. Прыезджыя могуць пасяліцца ў хатах мясцовых людзей. У гміне многа агратурыстычных пансіянатаў.

*„**Людзі Тамары Саланевіч**" — Вікторыя Барэчка, Гімназія імя Тамары Саланевіч у Нараўцы*



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Вёска: пакаленні

Еду веласіпедам праз поле
А тут раптам вёска.
У пачатку маленькія хаты, драўляныя платы,
Касцы размашыста косяць збожжа...
Еду далей. Бачу большыя дамы
І людзей як працуюць на полі.
У канцы вёскі ўсё памянялася.
На полі працуюць адны машыны,
Дамы схаваныя за пластмасавымі платамі,
Самотныя людзі без сям'і.
Людзі, не забывайце — хто вы!

*Крыстыян Паскробка, КП-Ш у Нарве*

## Польска-беларуская крыжаванка № 30

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклеенным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 26:**

Лозунг: Нараўка. Узнагароды, пакеты з „Пагоняй", выйгралі **Оля Пугацэвіч** і **Вікторыя Пякарская** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Sok / Makar | | |
| Ramka | Mars / Stodoła | | | Moc | | | |
| Zięć mieszkający u teściów | | | | | | | Prąd |
| | | | | | | | |
| Bociek / Wiąz | | | | | | | |
| | | | Krok | | | | |

# Паэтычны закутак

**Разгар лета. У дзень у краму забягаюць тыя, у каго ёсць час. У Тарнопалі ў „склепе” набудзеш і тое, што возяць раз’язныя аўтакрамы, але тут і халодным напоем можаш пачаставацца, і марозівам, бо стаяць халадзільнікі. Але можаш узяць і цяплейшае пітво. Марцін вядзе тут краму, родам з Бандароў, заснаваў яе быў яшчэ яго бацька. Можна сказаць, што Марцін тут у прымах быў, але ўжо не ёсць. Але інтарэс працуе. Цяперашніх людзей ведае тутэйшых, старэйшых не вельмі, хіба што каторы прыходзіць па пакупкі.**



Аля Ясвіловіч з сынам Дарафеем і Марцінам

А Марцін Гайдука ведаў, Валодзю? Ведаў, прыязджаў на ровары па пакупкі, з Гайдукоў, з хутара яшчэ званага Полымем, браў тое, што найбольш трэба. Мала пра што Валодзя распытваўся ў людзей, і яны ім таксама не вельмі цікавіліся. Дзівакаваты. Суседзі нават гневаліся на яго, бо быццам бы ўбачыў тое, што не трэба, і можа даказаў каму. Справядлівы такі. Якія тут дзялы — можа што ў плёнтку злапалася, можа хто якое дрэва зваліў... Лес кругом. Людская справа, чалавекам трэба быць. Не, не будуць гаварыць людзі пра тое, што было, бо ж паэт ужо нябожчык, пакоіцца на ляўкоўскім могільніку. А тут у краму пасярод Тарнопаля зайшлі хлопцы, якія маглі б быць яго дарослымі ўнукамі. Пра ўсё пачуць можна, але не пры чужых.

— „Склеп” гэта як „мувніца”, — кажа прадавец. — Навіны ўсялякія, парады, сакрэты. О, тут хлопец хоча прадаць аўто, праўда, паношанае, але марка якая! Але што сказана тут, дык застаецца як у ксяндза. Тайна споведзі! Валодзя прыязджаў на закупы, а нават часам вершыкі казаў. Едла купляў. Што людзі ў нас купляюць? „Ужыўку”, хлеб. Хлеб з Беластока прадаем і Міхалова, бо Нараўка адмовілася ў нас свой хлеб прадаваць. Не вельмі „аплачваецца” мне гэты тут інтарэс, але без склепу была б бяда. У мяне можаш заплаціць нават банкавай крэдытнай карткай!

— О, цябе памятаю са школы, — кажа мне Яраслаў Леўчук. Можа, але ўжо з часу, калі я адбывала студэнцкую практыку ў семяноўскай школе. Яраслаў ведае, што я з „Нівы”, а пра тое, што я вершы пішу, ведае з Радыё Рацыя. Ну, зямлячка. А пра Валодзю чуў, што гэта „паэта тарнапольскі” быў.

— Тут паэтаў шмат у ваколіцы, — пачынаю пералічваць доўгі спісак. — У Ціванюках жыў паэт Аркадзь Леўшук, дзвесце метраў ад яго — у Юшкавым Грудзе Люба Саковіч, у Рыбаках дзядзька Фёдар Хлябіч, памёр ужо, і яго хросная дачка Марыся Хлябіч піша вершы... У Лешуках — Тадзік Кунцэвіч.... На семяноўска-нараўчанска-бандарскай зямлі найбольшая шчыльнасць паэтаў. І тых, што друкуюць, і тых, што гавораць вершы нават самі не ведаючы пра гэта, і тых, што складаюць вершы сваім жыццём і нікому іх не рассакрэчваюць. Ёсць такія, што нічога не напісалі, бо не мелі калі, але яны — душою паэты...

— А Валодзю... не дацанялі, — ціха кажа Яраслаў. — Ну, сябры думалі... што ён трошку... ну. Дзівак, словам. Бо ён такі і быў. Не трымаў кантакту з людзьмі. Прыязджаў у краму, раз на тыдзень, купляў што трэба, і ўсё — больш не паказваўся. З хаты не выходзіў. Гэта ўсё. Нічога пра яго кепскага не скажаш, тым больш, што пра памерлага не выпадае. Як адзін, самотны чалавек, то напэўна дзівачэе. Ані пагаварыці з кім... Бо ўсе ад яго адкінуліся.

Яраслаў Леўчук жыве на Вёнцкаве, па-нашаму на Хаміным. І там народу малавата.

— Там жывём. Матка мая памерла, яшчэ бацька ёсць. Я маю хату ў Гайнаўцы, але мушу тут ужо быць, бо *ойцец* ужо хворы. Недалёка адсюль, кіламетры тры, мігам праедзеш. Раблю на чыгунцы, манеўровым. Ну, гэта ў нас чыгунка мае развівацца, маюць рабіць тое *ціто*, пагранпераход, але як да таго дойдзе, як тое будзе, то хто яго ведае...

— За гэтым густым лесам нават не ўбачыш старой семяноўскай станцыі, нат не дадумаешся, што там штосьці было. А зараз развалiны таго славута бара, ён здаецца, „Рандо” называўся... — кідаю вокам на зялёны густы лес. — Людзі мала што пра сябе ведаюць...

— О, а тут Аля ў краму прыйшла, — схамянуўся хлопец з Хамінога. — Аля вершы піша!

— А чыя Аля гэта? — узіраюся ў чарнявую шчуплую жанчыну, што прыехала ў краму з двума хлопцамі, сынком Дарафеем і яго сябрам Марцінам.

— Ясвіловіча. Пекныя вершы піша! А сястра яе Аня, можа ведаеш, таксама. А маці іх — Жэня з Ляўкова. Піша і так, і так — і па-польску, і па-свойму, — інфармуе Ярак, пакуль Аля падыдзе пад краму. Усё ж ведае Яраслаў, хто ў ваколіцы піша вершы! — Аля, хадзі сюды! Я ўжо Міры сказаў, што ты прыгожыя вершы пішаш. Такая праўда.

— Ну, можа які запісала, — перлінамі смяецца жанчына. — Пісаць па-беларуску не вельмі ўмею, не хачу язык ламаць. Але магу сказаць, што па-свойму пішу. Ці гэта вершы... Як мы жывём на вёсцы магу напісаць. Жыву ў Семяноўцы, на хутары. На найдаўжэйшай вуліцы — Ланковай. Сама родам з Ляўкова. Пасля ліцэя я працавала прыбіральшчыцай, цяпер я хлебаробка, удава. Наша вуліца Ланковая вельмі доўгая — ідзе з Семяноўкі, праз Асовае, аж да нас, кіламетраў пяць будзе. А нумар маёй хаты — 114. Канец лесу, і па правым боку — мае будынкі. Дзесяць гектараў абрабляю, гадую кароў, бычкоў. І пра іх напісала: „Нашто гэтыя кальчыкі? Няхай імёны маюць быкі!”.

Тут слухачы пад крамай пачынаюць біць брава.

— Мая сястра Марынка таксама вершы пісала. А якія там вершы мае! Задумаецца верш, дык і напішу. Прачытаю. Адзін фацэт сказаў: „Такія вершы нямодныя”.

— Ты на пахаванне маёй мамы напісала цудны верш, — прыгадвае Ярак.

— Я напісала?.. Ой, не памятаю...



Яраслаў Леўчук і аўтарка

Я маю шмат напісаных накідаў, але не перапісаныя яны. Можа і нямодныя, але напісаныя як ва ўласную абарону. Пачала пісаць яшчэ ў ліцэі. Першыя вершыкі, калі мая сястрычка маленькая была. Я жыла ў інтэрнаце. Святло пагасілі, нельга было запаліць. На вуліцы свяціў ліхтар. Я ўзяла даўгапіс, лісток, і стала пісаць, што мне ў галаву прыйшло. Гэта было пра нашу Марынку, па-польску. „Tak niedawno urodzone, przez mamusię nakarmione, bez imienia toto jeszcze, i na cały dom już wrzeszczy!”. Раніцай устала, і перапісала. Вершаў у мяне занатавана шмат, па розных шуфлядах-нешуфлядах. Маю вершыкі для канкрэтных асоб, на імёны. Пра сельскую гаспадарку, жыццё ў вёсцы. Пра гаспадара, стомленага ад работы, які ўжо на жонку і не гляне... Сатырычныя вершы, у нас людзі найбольш любяць смешныя вершы...

— Я працавала крыху ў гміне, — прыгадвае Аля. — Перапісвала газету, каб навучыцца хутка друкаваць на машынцы. Прыйшла старая жанчына і стала наракаць. А я давай друкаваць: „Chodzi po świecie starucha, kulawa, ślepa i głucha... Z twarzą ku ziemi schylona, z laską idzie zgarbiona...”. Вось і маеш тую старасць. Ехала калісь у Беластоку ў гарадскім аўтобусе, людзі вельмі брыдка лаяліся, а і малыя дзеці былі сярод пасажыраў. Мне гэта так не спадабалася, і склала верш „Лаціна па-польску”. А па-свойму пісаць — трэба сур’ёзна. „Пісаць пабеларуску трэба знаці, так добра як гаварылі бацька і маці”. Непрафесіяналка я. Часам так мне мовы разам сплятуцца, што цяжка рыфму злапаць, — смяецца. — Тая асоба, што казала, што мае вершы „нямодныя”, сама піша „класічныя”. Мая сястра Аня таксама штосьці піша. А сястра Ірэна мае агратурыстычную гаспадарку, і я ёй вершык склала. І нашаму бацюшку. І пра банк. І пра Марцінаву краму.

... Я вершаў Валодзевых не чытала, не давялося, — з сумам дадае Аля. — Але ведала яго. Я малако прывозіла ў скупку, ён таксама. Чула, што ён паэт. Па-мойму быў ён чалавек спакойны, і можна было з ім пагаварыць пра ўсё, калі пачаць размову. Але чалавек быў ён скрытны. А чытала я вершы паэта з Лешукоў, Тадзіка, бо ў маёй сястры Ірэны ёсць яго ксёнжачка; з цікавасцю яе прачытала. Буду мець час, перапішу і свае вершыкі, тыя што на лісточках пазапісваныя. Але дзе той час... Бывае, еду на рыбалку (вязу сябра Геня), і тады стараюся пісаць вершы — ён ловіць, а я сваё запісваю. Раніцай, пакуль спяць, я запішу што-небудзь. А потым то вязі, то прывозь, то рабі ў полі... Дзяцей трое маю. Па-беларуску слаба я пішу, і слаба чытаю. Хаця мой дзед ад першага нумара „Ніву” выпісваў і яе чытаў. І мама мая ўвесь час чытае „Ніву”, а я — час ад часу. І мае дзеці ўсе вучыліся беларускай мовы, малы вучыцца цяпер у Лілі Тарасевіч у Нараўцы...

Вяртаюся з нашага наваколля гадзіны праз тры. А мой мабільнік, вырваўшыся з зоны недахопу пакрыцця сувязі, проста гудзе зычным голасам Алі Ясвіловіч:

— Міра, я верш напісала. Слухай, па-свойму!

*Наша простая мова, нашы простыя словы. Запісаныя ў гэтай газеце, напрыгажэйшай газеце на свеце.*

*І ўсё што нас цікавіць, і ўсё што нас расслаўляе — усё знойдзеце вы тут, апісаны наш родны кут.*

*Вашы справы сэрцу блізкі, вашы думкі і запіскі, многа звестак і павестак, для сыноў і для нявестак,*

*А таксама дочкам, зяцям, усім знаёмым, унукам, бабцям. І дарослыя і дзеткі — прачытайце з „Нівы” звесткі!*

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Дэніскі

*Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага*: **„Deniski, wieś nad Narwią, pow. bielski, gub. grodz., gm. Rajsk, 16 wiorst od Bielska, 923 dziesięciny, ślady cmentarzyska”.**

Дарога ад бельска-беластоцкай шашы ў Дэніскі пачынаецца са своеасаблівага абярэгу, працягласцю ў трыццаць-сорак метраў. Бадай найбольш папулярным зараз тутэйшым тапаграфічным абярэгам з'яўляецца прыдарожны крыж, што мае берагчы ад злых духаў. А вось той кавалак дарогі ў Дэніскі з'яўляецца вельмі практычным, незалежным ад актуальных вераванняў прадметам, які таксама мае берагчы сучасных карыстальнікаў асфальтовак. Менавіта тыя некалькі дзесяткаў метраў дарогі ў Дэніскі вымашчаны ўхабістым жвірам. Тыя ўхабіны маюць з боку шашы знеахвоціць непажаданых гасцей, а з боку вёскі маюць прымусіць надта смелых шафёраў збавіць скорасць сваіх машын, каб не трапілі яны пад энергію $E=mv^2$ разагнанага па важнейшай дарозе са скорасцю v аўтатранспарту з масай m. Такую камунікацыйную развязку лічу намнога больш сэнсоўнай ад розных дарожных знакаў, на якія шафёры не заўсёды звяртаюць патрэбную ўвагу. Гэта разнавіднасць гарадскіх „ляжачых паліцыянтаў”, толькі з інакш скіраванай выпукласцю. А далей, аж да самага канца вёскі, асфальт гладкі як стол...

Прыдарожны паказальнік інфармуе, што ад шашы ў Дэніскі два кіламетры, але да першых збудаванняў вёскі будзе недзе напалову менш. І тыя першыя збудаванні відаць ужо ад шашы, але толькі ў ландшафтнай адтуліне, па якой і прапягае дарога. Мабыць некалькі дзесяткаў гадоў раней можна было пабачыць адтуль і цэлую вёску. Аднак зараз завітаў да нас такі дабрабыт, што вясковыя людзі не патрабуюць ужо карпатліва вырошчваць на сваёй зямельцы сельскагаспадарчых культур; месца жыта, бульбы і грэчкі займаюць найчасцей пасадкі і самасеі. Вось за такой лясной шырмай і прыхаваліся зараз Дэніскі.

Традыцыйныя абярэгі, каменныя крыжы, пастаўленыя ў Дэнісках на канцах вясковай вуліцы. Крыж на паўднёвым канцы вёскі з'яўляецца вывадным; перад ім катафалк. На каменнай стэле надпіс: „Спаси Господи люди Твоя и благослови достояние Твое. Стараниемъ деревни Денисковъ за здравие 1877”.

Стаяла сонечнае надвор'е і на вуліцы паказалася крыху народу. Падышоў я да мужчыны, што сеў на лавачцы перад сваёй хатай. Аказалася, што ў мінулым быў ён пісьманосцам і бывала, гаварыў ён, што разносіў каля ста васьмідзесяці асобнікаў „Нівы”. А зараз пісьманосец з Бельска, польскі, і на „Ніву” ён глядзець не можа — няма яе ў ягонай сумцы. Але некалькі старэйшых жанчын заказваюць той нумар „Нівы”, у якім каляндар. На пытанне, колькі людзей жыве зараз у Дэнісках, пачуў я адказ, што каля ста чалавек.

Мой субяседнік прыкмеціў раней, што я ўзіраўся ў згаданы крыж і паведаміў мне, што на другім канцы вёскі таксама ёсць стары крыж. Але гэта не ўсё: далей за тым крыжом ёсць таксама старыя могілкі. Калісь Дэніскі, паводле майго інфарматара, былі ў Кажанскім прыходзе, пазней у Раенскім і, на канец, у Плёскаўскім. Можна засумнявацца, ці Дэніскі былі ў Кажанскім прыходзе, што на паўночным, супрацьлеглым да Дэніскаў, беразе Нарвы, бо вёска ў XVII і XVIII стагоддзях уваходзіла ў склад Прачысценскага прыхода ў Бельску. А на мясцовых могілках перасталі хаваць нябожчыкаў таму, што могілкі не надта далёка ракі Нарвы і да іх падыходзіла вада. І ён, мой суразмоўца, нават ахвотна прайшоўся б са мною да тых могілак, але ў яго бяда — хворыя ногі. Калісь, у маладыя гады, гуляў ён у футбол і атрымаў такую нешчаслівую траўму, якая выразна відочная і зараз. І чалавек не выпрацаваў сабе пенсіі, утрымліваецца адно з сацыяльнага дадатку велічынёй у паўтысячы. Вось нядаўна прывезлі яму новы сметнік, за які таксама трэба будзе плаціць, але чалавек не надта турбуецца — павінна хапіць тых грошай.

По вуліцы прасоўвалася аўтакрама. Адна машына прыязджае ў цотныя дні тыдня, а другая ў няцотныя. Прыязджае яшчэ час ад часу і трэцяя...

Спытаў я пра колішні калгас. А як жа, будынкі стаяць за вёскай. Нейкі час таму купіў іх быў нейкі прыватнік, які абрабляў і калгаснае поле. Але вось у мінулым годзе быў ён занядужаў на полі, прыехала скорая з Бельска, з якой лекар выклікаў верталёт, які і забраў яго ў шпіталь. Выпісалі яго пазней са шпіталя з рэкамендацыяй забараняючай працаваць. А ў былым калгасным будынку, што найбліжэй вёскі — „бурдэль”; там у час канікул збіраецца прыезджая моладзь і гарэзнічае...

Пайшоў я далей, да групкі з трох жанчын, якія чакалі сваёй чаргі да аўтакрамы. Пахвалілі яны такую форму гандлю, калі тавар падвозяць пад самую хату. Не трэба за ім ездзіць у вонкавыя крамы. Такая пастаянная найбліжэйшая крама ёсць у Храбалах, а ці ў Плёсках ёсць — жанчыны не ведалі. І добра было б цяпер жыць, бо і грошы прывязуць, і тавар прывязуць, толькі вось здароўя няма. Была ў вёсцы адна жанчына, якая ніколі не хварэла, гаварыла яна: „Я ніколі не памру, бо не хварэю”; пражыла яна сто чатыры гады. Пажылым людзям найлепшым выхадам падаецца цяпер асяродак для састарэлых, бо няма маладых сямейнікаў, якія заняліся б хворымі старымі. Тыя маладыя трымаюцца цяпер працы, бо яна зараз вельмі каштоўная.

На паўночным канцы Дэнісак стаяць два крыжы: адзін новы, драўляны, без ніякіх надпісаў, а другі старэнькі, каменны, з моцна засакрэчаным часам надпісам, з якога ўдалося мне прачытаць толькі словы „...стараниемъ деревни Денисковъ за здравие...”. І дату: 1877 год.

Падаўся я па лабірынтах лесу, што прылёг ад поўначы да вёскі, шукаць згаданых могілак, але не ўдалося мне іх знайсці. Вярнуўся я ў вёску, з якой знікла ўжо аўтакрама, а за ёй пакінулі вуліцу і пакупнікі. Але ж пашчасціла мне пабачыць мужчыну, які збіраўся некуды ехаць на веласіпедзе. Ён вельмі дэталёва расказаў мне пра дарогу да дэніскаўскіх могілак.

Могілкі распаложаны за паўкіламетра за вёскай. Захавалася на іх шмат такіх жа старых каменных крыжоў-стэлаў, што і на канцах вуліцы, з гэтак жа сама прыхаванымі часам надпісамі. І толькі адна больш сучасная магілка з 1952 года. Частка могілак расчышчана з зарасніку. І ёсць агульны сучасны помнік. Надпіс на ім засмуціў мяне... Яго аўтары, мабыць, забылі або і не ведалі пра канфесійнае мінулае сваёй вёскі, хаця на старых каменных стэлах захаваліся і лацінскія крыжы, а Пятая запаведзь загадвае шанаваць сваіх продкаў, нічога не згадваючы пра іх „кананічную” прыналежнасць...

Пакінуўшы могілкі, выйшаў я на дарогу ў бок вёскі; па ёй вяртаўся ад нарваўскай даліны пажылы трактарыст. Спыніўся ён каля мяне на кароткую гутарку. Паколькі пабачаныя мною раней дэніскаўцы былі амаль усе ў пенсійным узросце, спытаў я цяперашняга суразмоўцу, колькі пражывае ў Дэнісках людзей, якія яшчэ не на пенсіі. І даведаўся, што мо тры такія асобы...

Ад могілак вяртаўся я па загуменнай дарозе. Палі, што працягнуліся ў напрамку Плёсак, упрыгожаныя ўжо шматлікімі палеткамі маладога лесу. А сама дарога вяла ўжо бароніцца перад наступам зелені, каляіны яшчэ захоўваюцца, але ўжо яны даволі кволыя.

А раней на загуменні Дэніскаў квітнела новае. Вось што пісала „Газета Беластоцкая” ў 1952 годзе: **„Po wyzwoleniu kraju od obszarników i fabrykantów na wieś przyszło nowe życie. Chłopi nie potrzebują wysługiwać się u kułaka. Ci, co przed wojną nie mieli pracy, dziś pracują w mieście przy budowie fabryk i osiedli. Raz na zawsze we wsi zniknęła zmora bezrobocia i nędzy — zniknął głód ziemi. Przełomową chwilą w życiu mieszkańców gromady Deniski było zorganizowanie Rolniczego Zespołu Spółdzielczego. Od tego czasu szybko następowały zmiany w życiu wsi. Doprowadzono światło elektryczne. Zagrało radio w każdym domu. Wieś dawniej odcięta od świata włączyła się do budowy lepszej przyszłości, nowego życia, radośniejszego i szczęśliwszego, bez wyzysku ze strony kułaków i spekulantów. W ciągu roku zespołowej pracy spółdzielczy z Denisek osiągnęli nie jedno, mają się czym pochwalić. Szczególnie radosną chwilę przeżywali ci członkowie, którzy w ciągu roku pracowali z oddaniem i nie opuścili ani jednego dnia pracy. Bo wynik pierwszego roku gospodarowania przekreślił wątpliwości i zadał cios wrogiej propagandzie kułaka i spekulanta na wsi”.** У маштабе Бельскага павета каапературу ў Дэнісках лічыўся перадавым...

Было гэта шэсць дзесяцігоддзяў таму. Але і сёння хочацца пісаць пра Дэніскі па-мажорнаму. Вёска выглядае вельмі акуратна. Амаль няма ў ёй запушчаных хат, усе хаты выглядаюць вельмі прыстойна. А з панадворкаў на вуліцу выхіляюцца сакавітыя плады яблынь і вішань. І яшчэ адно: на ніводзін панадворак няма раз'ezджанага цяжкімі сельскагаспадарчымі машынамі ўезду; значыць вялікатаварнай сельскагаспадарчай вытворчасцю ніхто ў Дэнісках не займаецца. Але невялічкі статак кароў пасвіўся на пашы, што прылягла да працякаючай побач вёскі Арлянкі.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**







Элементы хатняга дэкору

Вывадны крыж у Дэнісках



Агульны помнік на дэніскаўскіх могілках

# У хаце такога няма

**Не спіцца і не нудзіцца харыстам гайнаўскага хору „Рэха пушчы”. Толькі што завяршылі яны свой чарговы спявацкі марафон: беларускія Пружаны, а дзень пазней родная Гайнаўка шчодрымі апладысментамі дзякавалі ім за выступленні, якія радавалі вушы і душы мясцовай публікі.**

Раніцай, у суботу, 13 ліпеня кампактным шэрагам з'явіліся яны на пляцоўцы ля Гайнаўскага дома культуры. Тут быў пададзены транспартны сродак, які забраў іх у трансгранічнае падарожжа. Яшчэ да выезду ад шчырага сэрца прывіталіся яны з сябрамі з Крынак. Так склалася, што адданыя беларускай справе гайнаўскія харысты ад некалькіх гадоў горача падтрымліваюць артыстычную дзейнасць дуэта „Заранiца”. Не забыліся пра іх і пры нагодзе гарачага ў міжнародныя выступленні перыяду. Вядома, разам і цікава, і весела, а і на сцэне багацей. У радасным настрої, зараз за калючым гранічным плотам, гайнаўскія і крынскія спевакі кінуліся ў абдымкі працаўнікоў Пружанскага дома культуры. Далейшая частка падарожжа праходзіла ў атмасферы ўспамінаў аб апошняй маёвай сустрэчы з пружанскімі калегамі — супольным юбілейным канцэрце ў гонар славутага сына гэтай зямлі Рыгора Шырмы.

На месцы, пры ўваходзе ў Пружанскі палац культуры гасцей з Польшчы чакаў малады куратар, які стараўся як мага найлепш выканаць кожнае жаданне сваіх падапечных. Місія перад ім стаяла няпростая, бо часу на рэпетыцыі і выступленні заставалася няшмат, а горад маніў гасцей сваёй прыгожасцю і атракцыёнамі. Колькі душ, столькі ж выдумак. Ахопленыя духам свабоды і прыгод падапечныя як вецер разбегаліся ва ўсе стораны свету. Ва ўважлівых вачах маладога куратара знікалі і паяўляліся яны за вугламі зусім не падобных на сябе вулачак старажытнага горада. Дадатковым выклікам былі і часавыя розніцы. Не заўсёды ўдавалася ахапіць ці абед у дванаццаць або вячэра ў сем трыццаць — гэта паводле польскага, беларускага ці мо маскоўскага часу. Бывала, што ветлівыя афіцыянткі са славутага рэстарана „Мухавец” клалі гасцям катлеты ці каўбасу ў вялікія пакеты. Звычайна найбольш дэзарыентаваныя крыху пазней, але далучаліся да багатага мухавецкага стала, а поўныя харчоў пакеты служылі ім у якасці вячэры пасля вячэры.


Гайнавянам вельмі спадабаўся тамтэйшы тэатр моды


Гайнаўскія харысты перад выхадам на сцэну

На талерках амаль нічога не заставалася, бо ж „у хаце такога няма”. Затое са спажыццём падрыхтаваных на гэты дзень культурных прапаноў госці з Польшчы не паспявалі. Пружаны сваю 580 гадавіну з дня заснавання горада адзначалі надзвычай гучна. Канцэртныя пляцоўкі і святочныя шэсці расцягваліся па ўсім шырокім праспекце паміж Палацам культуры і Музеем-сядзібай „Пружанскі палацык”.

Здавалася, што цэлы горад уключыўся ў святкаванне. Найстарэйшыя яго жыхары не прапускалі нават рок-канцэртаў. Маладыя, але славутыя мінскія „Дразды” прымусілі да танцаў у дажджы не аднаго пенсіянера, не гаворачы ўжо пра малодшае пакаленне.

Сяброў з Польшчы папрасілі выступіць на сцэне ў прыгожым палацавым парку. Увагу і прызнанне публікі здабылі яны непаўторнасцю песеннага рэпертуару і касцюмаў. Яны так спадабаліся мясцовым, што гэтыя распазнавалі іх ужо пераапранутых у цывільную вопратку на затканых святочным натоўпам вуліцах. Не было канца словам падзякі і пажаданням Божай дапамогі ў далейшай дзейнасці.

Ні з чым не параўнаць і не выказаць адкрытасці і гасцiннасці жыхароў Пружаншчыны. Нават выпадкова сустрэтыя на вуліцы мінакі прапанавалі прыбылым з-за мяжы спевакам начлег і гасціну ў сваіх хатах.

Але ж пра сон ніхто нават і не думаў. На гэта проста не хапала часу.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**




# http://vialejka.info

Вілейка — невялікае мястэчка на поўначы Мінскай вобласці. Яно мае даволі цікавую гісторыю — згодна апошнім даследаванням, першае ўзгадванне Вілейкі датуецца 1460 годам, але раней такой датай лічыўся 1599 год. У выніку гэткіх гістарычных адкрыццяў тамтэйшыя жыхары святкавалі ў 1999 годзе 400-годдзе роднага мястэчка, а ўжо ў 2010 годзе — 550-годдзе.

Найбольшую адміністрацыйную значнасць Вілейка набыла адразу пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, калі з правінцыяльнага мястэчка міжваеннай Польшчы стала цэнтрам цэлай вобласці беларускай рэспублікі. Праўда, цягнулася тое нядоўга — адразу пасля вызвалення ад немцаў гэты цэнтр пераехаў у Маладзечна, а потым у Мінск.

Назва мястэчка сугучная назве Вільні, што не выпадкова — абодва гарады стаяць на берагах Віліі — правым прытоку Нёмана. У той жа час некаторым жыхарам Вілейкі хочацца, відаць, большага адрознення, таму сталі яны называць роднае мястэчка Вялейкай. Доказам гэтаму з'яўляецца незалежны сайт у інтэрнэце, што месціцца па адрасе **http://vialejka.info.**

Выява сайта прываблівае сваёй не зусім звыклай для большасці беларускіх грамадскіх сайтаў будовай. Адразу бачна, што парупіліся стваральнікі сайта над яго выглядам. Уверсе выяўлення месціцца назва сайта, а таксама герб Вілейкі (Вялейкі). Ніжэй размешчаны рубрыкі сайта, у якіх амаль усе маюць падрубрыкі, што больш падрабязна раскрываюць тую ці іншую тэму.

Уладальнікі сайта ніяк не прадстаўляюць сябе. Гэта сур'ёзны недахоп, бо не бачна аніякіх звестак пра рэдакцыю ці нават кантактаў. Таму даволі дзіўна чытаць нейкую „Пошту рэдакцыі” ў рубрыцы „Дыскусійны клуб”, куды нібыта прыходзяць лісты ад чытачоў. Магчыма, гэтая опцыя — дасыланне электронных лістоў — уключаецца толькі пасля рэгістрацыі на сайце, але нідзе пра гэта не распавядаецца.

Што ж тычыцца галоўнай старонкі, то на ёй змешчана мноства цікавай інфармацыі, якая ў многім тычыцца менавіта Вілейкі. Там і пра вілейскія спартовыя падзеі, і пра здарэнні ў гарадку і яго наваколлі, культурныя адметнасці і многае іншае. Апошнія навіны месяцца з левага боку выяўлення — там разам з загалоўкамі можна прачытаць невялікія анонсы паведамленняў. З правага боку ідзе стужка навін.

Сайт „Вялейка” мультымедыйны, таму асобнай калонкай у ім стаіць рубрыка „Медыя”, дзе можна пабачыць і пачуць інфармацыю па той ці іншай тэме.

Паколькі зараз у Беларусі набывае моц агратурызм, то, зразумела, для правінцыяльнага мястэчка гэта таксама важкі аргумент у прыцягненні грошай. У падрубрыцы „Агратурызм” рубрыкі „Турызм” цікавы карыстальнік можа пабачыць каля дзесятка разнастайных агратурыстычных сядзіб у бліжэйшым і аддаленым наваколлі Вілейкі. А пра вандроўкі, што адбываюцца ў тых мясцінах, распавядаецца ў аднайменнай падрубрыцы.

„Вялейскі” сайт змяшчае і так званую „Карысную інфармацыю”, што падаецца асобнай рубрыкай. Яна сапраўды можа быць карыснай як для мясцовых жыхароў, так і гасцей мястэчка, бо змяшчае, у прыватнасці, карту Вілейкі, расклад руху цягнікоў, пазначэнне месц, дзе знаходзяцца рыбалоўныя ўгоддзі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Стваральнік гуртка беларускай моладзі

# 80 гадоў з дня смерці Францішка Грынкевіча

26 ліпеня 1933 года ў Гародні памёр Францішак Грынкевіч, рэлігійны і культурны дзеяч. Значная частка яго грамадскай дзейнасці мела яскрава беларускі характар.

Нарадзіўся Францішак Грынкевіч 5 кастрычніка 1884 г. у сялянскай сям'і ў Новым Двары на Сакольшчыне. У Новым Двары іх сям'ю называлі „пацёмкамі”, што абазначала людзей замкнутых, якія пазбягалі зносінаў з іншымі. Баляслаў Грабінскі згадваў братоў Грынкевічаў як „людзей глыбока думаючых, замкнутых у сабе, схільных да містыцызму і філасофіі, з моцнай верай у сэнсе рэлігійным, затое з малым нахілам да таварыскага жыцця”.

Пачатковую адукацыю Францішак атрымаў у народнай школе ў Новым Двары. Пасля скончыў гімназію ў Гродне. У 1901-1905 гадах вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, у 1905-1907 гадах — у Пецярбургскай духоўнай акадэміі. На адной са студэнцкіх сходак 18 снежня 1905 года выступіў з рэфератам, прысвечаным беларускаму нацыянальнаму руху. З 1 верасня 1906 года працягваў навучанне за свой кошт у Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу. Пасвечаны ў святары ў 1907 годзе. Далей вучыўся ў Інсбруку і Мюнхене. Будучы за мяжой, разам з ксяндзом Адамам Лісоўскім і студэнткай з Гродна Ганнай Салянкай стварыў невялічкі беларускі гурток. Ужо тады Грынкевіч кантактаваў з Іванам Луцкевічам.

З 1909 года Францішак Грынкевіч распачаў душпастырскую дзейнасць вікарыем Фары і Бернардынскага касцёла ў Гродне, адначасна выкладаў закон Божы ў Гродзенскай гімназіі, дзе арганізаваў Гурток беларускай моладзі (на здымку). Удзельнічаў у выданні першага беларускага каталіцкага малітоўніка „Бог з намі”. Грынкевіч адным з першых перадаў у фонд бібліятэкі гуртка „Люд беларускі” Міхала Федароўскага са сваіх уласных збораў. Разам з Адамам Бычкоўскім і Зоськай Верас вясной 1910 года ездзіў дамаўляцца пра правядзенне беларускай вечарыны ў маёнтку Крыштапарава. На імяніны Грынкевіча ў кастрычніку 1911 года малодшая секцыя гуртка паставіла спектакль „Пастушок”. Паводле Адама Станкевіча, „асоба Францука Грынкевіча ў Гародні была цэнтральнай і адзінай, якая будзіла там і арганізавала беларускі рух”. Ад 1911 года — пробашч Брыгідскага касцёла ў Гродне. Супрацаваў з газетай „**Biełarus**”, якая выдавалася ў Вільні. Пісаў сам у газету і намаўляў пісаць ксяндза Уладзіслава Талочку.

У час нямецкай акупацыі ў 1915-1919 гадах апекаваўся вязнямі турмы ў Гродне. Пасля Першай сусветнай вайны адышоў ад беларускай грамадскай дзейнасці. „Рэвалюцыя і вайна, — піша Адам Станкевіч, — а ў іх выніку ўваскрашэнне Польшчы, стварылі цалкам новыя варункі і новыя заданні беларускай справе, да якіх дастасавацца і сярод якіх актыўна працаваць кс. Ф. Грынкевіч ужо не патрапіў... Прадваенная ж яго беларуская праца — гэта прыгожае бачанне ў гісторыі беларускага культурнага адраджэння, запісанае беларускім каталіцкім ксяндзом, а замест якога хрысціянскі і беларускі народніцкі”.

Пахаваны Грынкевіч каля капліцы на старых каталіцкіх могілках у Гродне. У сярэдзіне 1930-х гадоў яго імем была названа адна з гродзенскіх вуліц.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Шляхам рэлігійных традыцый і нацыянальных культур

Таварыства „Стакротка” з сядзібай ў Курашаве, якое паспяхова разгортвае сваю дзейнасць у святліцы ў Палічнай (гміна робіць даступным памяшканне бясплатна), пашырае кола членаў на суседнюю Дубіцкую гміну. Ластаўкай ладжання сяброўскіх суадносін была Марыя Карпюк з Вэрстока, якая для старшыні таварыства Аліны Зазулінскай стала сааўтарам праекта „Дзве гміны — адна мэта”. Да гэтай кампаніі (у напісанні праекта) далучыўся муж Марыі, Юрка Карпюк. Праект быў адобраны і таварыства на яго рэалізацыю атрымала 10 тысяч злотых. У рамках пазнавання рэлігійных традыцый і нацыянальных культур была арганізавана экскурсія ў мячэць у Крушынянах і ў Супрасльскі манастыр. Праект прадугледжваў 80 удзельнікаў экскурсіі, але ахвотных аказалася больш...

Было гэта ў суботу, 20 ліпеня. Карыстаючыся нагодай, падаўся і я ў Кляшчэлі, каб далучыцца да групы з дзевяці чалавек, якая падавалася ў падарожжа з курашаўскай суполкай. З-пад сядзібы таварыства забіраем старшыню Аліну Зазулінскую з кампаніяй, якая пераймае палачку вядучага. Чарговыя экскурсанты чакалі пры святліцы ў Палічнай. Два аўтобусы з Бельскага прадпрыемства „Вэоля” падаюцца ў напрамку Гайнаўкі. Спыняемся яшчэ ў Вілюках, Вэрстоку, Арэшкаве і Гайнаўцы. З павятовага цэнтра далей дарога вядзе праз Нараўку, затым Семяноўскі вадаём, Бандары, Гарадок і ... у Крушыняны. У агульным падліку падарожнічала восемдзесят шэсць экскурсантаў рознага ўзросту — ад юных хлопцаў і дзяўчынак па сівелыя бабулькі. Мужчынскі пол быў адно „на акрасу”, усяго не больш 20-25 чалавек.

— Мужыкі менш становяча ставяцца да гэтага віду імпрэзаў, — канстатавала Аліна Зазулінская. У адборнай кампаніі былі яшчэ бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч і радная з Залешанаў Галіна Гераз.

Перадаю два чэрвеньскія нумары „Нівы” з тэкстамі пра фэст у Сухавольцах, 45-годдзе дабрывадскіх самадзейнікаў і велапрабег праз пушчу арганізаваны таварыствам „Стакротка”, якія папрасіла Аліна Зазулінская. Неспадзявана „Нівай” пацікавіліся мае кампаньёны. На асаблівую ўвагу заслугоўвае сядзеўшая перада мною Валянціна Рошчанка з Кляшчэляў. Гэтая 25 нумар прачытала ад першай да апошняй старонкі. У час размовы жанчына выявіла, што яна пенсіянерка і жыве ў Любліне, а ў Кляшчэлі прыязджае ў летнім сезоне на адпачынак. Яна — жонка Мікалая Рошчанкі, аўтара кніжкі „Кляшчэлі”.

Назіраю праз акно за краявідам, які мяняецца быццам у калейдаскопе: доўгая паласа Белавежскай пушчы — пачаткова сасновага, затым змешанага лесу — блытаецца з шырокай прасторай някошаных сенажацей. Адно ў наваколлі Ляўкова, за Плянтай, прыкмячаю копкі сена, стаяўшыя як салдаты ў радочку. Нідзе я не заўважыў скошанага збожжа. Жніва спазняецца. Гэта вынік працяжных дажджоў і халоднага, хмурнага надвор'я. Зерне не даспела... Мінаем Гарадок, калыску шматлікіх мастацкіх гуртоў і арганізаваных там культурных мерапрыемстваў. Неўзабаве выбіраемся на краёвую дарогу ў Баброўнікі. Здалёк зарысавалася шматкіламетровая чарга аўтамабіляў. Гэта аўтафуры, якія чакаюць на мяжы з Беларуссю. Зараз можна задумацца над праблемай перасякання польска-беларускай мяжы. Кашмар!..

Не даязджаючы да пагранпераходу ў Баброўніках, з левага боку пры гравейцы спаглядаю на таблічку з надпісам: Лужаны 4 км, Крушыняны 10 км. Паварочваем у гэтым напрамку. Гравейка не найлепшай якасці. Трасе быццам у ліхаманцы. Так было на адлегласці 6 кіламетраў. Апошнія чатыры кіламетры ў Крушыняны праязджаем шыкарнай асфальтоўкай. Перад сталовай „Татарская юрта” спыняемся пятнаццаць мінут пасля адзінаццатай. Зразу падаемся на абед.

У агратурыстычнай кватэры Джанэты Багдановіч вітае нас гаспадыня. Шыкарна абсталяванае гасціннае памяшканне, прыаздобленае нацыянальнымі ўборамі і шматлікімі абразамі, сведчыць аб добрым гусце ўладальніцы. Абслуга таксама вартая пахвалы. Маладзенькія афіцыянткі круціліся быццам руплівыя пчолкі. Прытым пах прыгатаваных страў прыбаўляў апетыту. А падалі нам салодкія адмысловыя булачкі „цынамонкі” з гарбатай, суп „лапшу” і асноўную страву — „ечпачмакі”. У час спажывання абеду гаспадыня Джанэта Багдановіч расказала гісторыю татарскай меншасці, якая была заселена каралём Янам III Сабескім у 1670 годзе.

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

## Асцерагайцеся баброў!

На першы погляд гэта такая плюшавая, мяккая цацка, якую можна пагладзіць і прытуліцца да яе, узяць на рукі... Але бабры, на шчасце, пазбягаюць чалавека і да кантактаў з імі звычайна не даходзіць. А калі ўжо дойдзе, то паслядоўнасці такога сутыкнення могуць быць вельмі небяспечныя і непрыемныя. Для чалавека.

У заходняй частцы Беларусі, у наваколлі Брэста дайшло нядаўна да некалькіх непрыемных сітуацый з удзелам бабра і чалавека. Адзін вудзільшчык хацеў сфатаграфаваць бабра і надта блізка падышоў да яго. Бабёр двойчы ўкусіў яго ў сцягно, перакусіў артэрыю і абяскроўлены чалавек памёр да прыезду хуткай дапамогі.

На Палессі бабёр падышоў да забудовы. Жанчына, якая прыбірала панадворак, падумала, што гэта сабака, і хацела яго прагнаць. Аднак жывёла кінулася да жанчыны і пакусала яе.

Віктар Кацуба з паляўніча-рыбалоўнай гаспадаркі «Лунінец» тлумачыць, што такія здарэнні паўтараюцца таму, што расце лік гэтых грызуноў і разам з тым часцей здараюцца выпадкі захворванняў, у тым ліку на шаленства. Расце колькасць гэтых жывёлін і таму, што попыт на мех упаў. У Беларусі палявадь на бабра дазваляецца толькі ў светлы час сутак, а ён жа ж вядзе начны спосаб жыцця.

Выснова адна: мілы і быццам бы бездапаможны на сушы звярок — жывёла дзікая. Чалавек павінен помніць аб гэтым і пазбягаць, калі гэта магчыма, непатрэбных кантактаў з бабрамі.

**М. Ц.**

## Адгаданка

1. сталіца Азербайджана, 2. горад са школамі імя Браніслава Тарашкевіча і Яраслава Касцыцэвіча, 3. непрыгоднасць прадмета ад працяглага яго ўжывання, 4. горад пры ўліцы Дзвіны ў Балтыку, 5. Нікола, сербскі і югаслаўскі дзяржаўны дзеяч (1845-1926), 6. матэматычная невядомая, 7. малочная жывёла ў Афрыцы і Азіі, 8. адзінка сілы, 9. рух, напрыклад шахматны, 10. кукавала ў зялёным лесе, 11. забаўляльная ўстанова з прэстыдыжытатарам, 12. авальная лічба, 13. адзін адсотак ад веку, 14. меса, 15. моцны рэзкі штуршок, 16. адміністрацыйная адзінка з некалькіх гмін, 17. другі няцотны лік.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | | | | | | | |
| | 2 | | 3 | | | 4 | | 5 | | | | 6 | |
| | | | 7 | | | 8 | | 9 | | | 10 | | |
| | 11 | | 12 | | 13 | 14 | | | | | 15 | | |
| | | | | | | | | | | | 16 | | 17 |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 25 нумара**

Гогаль, жук, маг, мера, Пенза, перац, рыжык, цень, цунамі.

Рашэнне: **Пакуль гром не загрыміць, мужык не пержагнаецца.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 28.07 — 03.08

**(22.03. — 20.04.)** 28-30.07. — час спрыяе інтрыгам, хтосьці схоча цябе пасварыць з калегамі. Будзь асабліва ўважлівым маючы дачыненне з адкрытым агнём і электрычнасцю. У аўторак зможаш знайсці тое, што ўжо даўно шукаў. У сераду магчымы нязначны канфлікт з суседзямі. У чацвер — поспех у адносінах з процілеглым полам. Калі ў суботу паб'еш некалькі шкляных або фарфоравых прадметаў, то твае няўдачы на гэтым не скончацца.

**(21.04. — 21.05.)** 27-30.07. маеш шанц адкрыцца на новы вопыт, мілыя флірты, пані Быкі могуць адчуць недахоп ласкі. Не перабольшвай сваіх праблем; усё вырашыцца само сабой. Магчыма, пазбавішся ад пачуцця турботы і невыразных імкненняў, калі пераставіш у сваім доме мэблю. У панядзелак і ў чацвер правер надзейнасць замкоў у хаце. Аўторак: адкладзі справы на заўтра. У сераду ўмацоўвай адносіны з супрацоўнікамі і пацвярджай свой аўтарытэт.

**(22.05. — 22.06.)** 27-30.07. дробныя праблемы, сварлівасць. Калі выпадкова перабльітаеш соль з цукрам, чакай добрых навін у самы бліжэйшы час. У тваім жыцці адбудзецца нешта новае і незвычайнае. У цябе выявіцца здольнасць прыцягваць тое, што хочаш. У сераду верагодна аднаўленне старых сардэчных прыхільнасцей.

**(23.06. — 23.07.)** 26-30.07. выбухі і гвалтоўныя спрэчкі, непрадуманыя выдаткі. Новыя сувязі з дзелавымі партнёрамі могуць аказацца вельмі трывалымі. У гэты тыдзень зможаш закласці добрую аснову для сваіх будучых фінансавых поспехаў. Тыдзень вельмі ўдалы для тых, хто заняты пошукамі новай працы. Будзь уважлівым на дарозе, адмоўся ад далёкіх падарожжаў і рызыкоўных мерапрыемстваў.

**(24.07. — 23.08.)** 27-30.07. пануры настрой і неахвота да жыцця; не пазычай грошай. Праява неспрыяльнай энергетыкі можа выклікаць у тваім жыцці хаос і напругу. Адмяні свае планы і надай больш увагі свайму здароўю. Першая палова тыдня багатая на новую інфармацыю і знаёмствы. Панядзелак: не заключай дагавораў аб здачы сваёй кватэры ў наём. У аўторак правер наяўнасць сродкаў на крэдытнай карце (магчыма, трэба будзе змяніць коды доступу).

**(24.08. — 23.09.)** У апошнія дні ліпеня мілая асоба можа паявіцца з пярсцёнкам. 27-31.07 можа трэба будзе адмовіцца ад некаторых дзеянняў, можаш адчуць сябе адсунутым на абходны пуць. Вялікая верагоднасць буйных памылак пад уплывам эмоцый і пачуццяў. Праяві розум і не ідзі на паводку імгненных запалу і жаданняў. Пятніца, субота і нядзеля: верагодна рамантычнае знаёмства з чалавекам здалёк, аднаўленне старых сардэчных прыхільнасцей.

**(24.09. — 23.10.)** Узмоцняцца пачуцці. Але 27-28.07. могуць паявіцца расчараванні і фінансавыя праблемы. Для тых, хто пакуль не знайшоў спосабу задаволіць свае амбіцыі, наступае залаты час. Варта дзейнічаць актыўна і рашуча. Зараз у цябе ёсць усе шанцы заявіць пра сябе і прыкметна прасунуцца ў кар'еры.

**(24.10. — 22.11.)** Падумай аб адпачынку. 27-30.07. не ацані кепска нейкай канфліктнай сітуацыі. 28-31.07. рамантычнае каханне, удачы ў фінансах. Зайграй у лато! Будзь гатовы на гэтым тыдні да непрыемных сюрпрызаў з боку кампаньёнаў. Каб абмежаваць шкоднікаў у тваім кар'ерным росце, пастаянна насі з сабою чорны турмалін, памазаны алеем бергамоткі. Аўторак спрыяльны для прадпрымальніцтва і гандлю. У сераду атрымаеш поспех у справах звязаных з пасрэдніцтвам.

**(23.11. — 22.12.)** 27-29.07. можаш адчуць стому. Беражыся ўсяго, што гучыць занадта добра, каб быць праўдай. Развівай свае творчыя здольнасці, каб знайсці новыя ідэі і кірункі дзейнасці. У аўторак могуць цябе абвінаваціць у тым, чаго ты ніколі не рабіў. Калі ў чацвер ты выпадкова ці наўмысна заб'еш павука, то апынешся ў вялікай залежнасці ад абставін. Выпраў гэты промах, перахрысціўшыся адначасова дзвюма рукамі.

**(23.12. — 20.01.)** 27-30.07. можа быць непрыемна. Бізнесменаў на гэтым тыдні чакаюць непрыемныя сюрпрызы з боку дзелавых партнёраў. Вышэйшыя сілы дапамогуць табе пераадолець шматлікія перашкоды ў аўторак. Серада: дзень адзначаны важнымі зменамі і атрыманнем нечаканых непрыемных вестак. У суботу не хадзі басанож па расе і не працуй у полі.

**(21.01. — 19.02.)** Чакае цябе шмат спраў і праблем. У канчатковым выніку ўсё пойдзе табе на карысць, аднак трэба будзе прыняць дапамогу збоку. Не бойся задзейнічаць уплывовых сяброў і сваякоў.

**(20.02. — 21.03.)** Старанна сплануй план дзеянняў на наступны тыдзень, нічога не ўпусці. Не марнуй зашмат часу на забаўку, займіся грамадскімі справамі. Можа трэба будзе здзейсніць невялікае падарожжа. Серада — добры дзень для набыцця загараднага дома ці зямельнага ўчастка. Канец тыдня — ажыўленне ў справах.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 100 egz.






# Іншыя адценні «Басовішча»

20 ліпеня 2013 г. Беларусь далучылася да Еўрапейскага Саюза. Беларускі сцяг (бел-чырвона-белы) і еўрасаюзны былі пастаўлены на дзве мачты. Давялі да гэтага... іншапланецяне на другі дзень сёлетняга XXIV Фестывалю Маладой Беларусі «Басовішча» перад сцэнай падгарадоцкага ўрочышча Барык. Таму што не толькі музыкай у пераменнае дажджліва-сонечнае надвор'е жылі сёлета «Басы». Акрамя згаданага перформансу («Уваход»), у ходзе фестывалю абмяркоўваліся палітычныя і сацыяльныя пытанні з нагоды паказу дакументальных фільмаў з цыкла «Дэмакраты» міжнароднай вядомасці мультымедыйнага мастака Артура Жміеўскага, адбыўся Партызанскі кангрэс карыкатурыстаў пад кіраўніцтвам іншага сусветнавядомага мастака Паўла Альтхамера, былі прадэманстраваны фільмы з апошняга варшаўскага фестывалю беларускага кіно «Bulbamovie» і вядомая ў апошні час кінакарціна «Жыве Беларусь» (са Зміцерам «Вінсэнтам" Папко ў галоўнай ролі, які потым захаплённа рэпаваў на падгарадоцкай сцэне), а фатографы Адам Панчук (Польшча) і Аляксандр Цехановіч (Беларусь) стварылі палявое фотаатэлье, дзе павіслі партрэты ўдзельнікаў фестывалю.

Яшчэ да інаўгурацыі «Басовішча», падчас прэс-канферэнцыі, каардынатар фестывальных дзеянняў фатограф Павел Грэсь, старшыня Фонду «Віла Сакратас» (фонд у гэтым годзе быў галоўным арганізатарам фестывалю ў супрацоўніцтве з Беларускім аб'яднаннем студэнтаў) адзначыў:

— Формула «Басовішча» адрасавана маладым людзям, бо гэты праект будзе ім прапанаваны. — Былі розныя «Басовішчы»: хеві-металічныя, больш далікатныя, этна. У гэтым годзе фестываль уяўляе сабой кампраміс — будзе штосьці для ўсіх, — прадбачыў музыкант і фатограф Юрка Асеннік, член арганізацыйнага штаба фестывалю. — «Басовішча» неабыякавае да грамадскіх пытанняў. Мы будуем таксама мультыкультурны дыялог. Таму, напрыклад, выступіць Клезмерскі аркестр Сейненскага тэатра. Спадзяемся, што ў будучыні выступяць таксама цыганскія ці татарскія групы. Ілона Карпюк, салістка групы «Іло і сябры» (выступілі ў першы дзень фестывалю), прэс-сакратар сёлетняга «Басовішча», дадала: — «Басовішча» стварала студэнцкае асяроддзе і дасюль яно з'яўляецца важным акцыянерам фестывалю. Падчас фестывальных канцэртаў, адзін з бацькоў «Басовішча», сусветнавядомы мастак Лявон Тарасэвіч з Валіл падзяліўся з намі думкай пра яго сёлетні выпуск: — Для мяне «Басовішча» заўсёды было лакмусавай паперкай грамадства. У гэтым годзе фестываль быў вельмі прафесійным. Атмасфера, сайт, графічны дызайн на еўрапейскім узроўні, і гэта добра, што канцэртам спадарожнічаюць іншыя падзеі. Гэта, што ўведзены іншыя формы мастацкага выказвання, сведчыць аб тым, што фестываль развіваецца. Калісь, калі былі выдзелены дзве падзеі: гэтая і «Бардаўская восень», было відаць тут нейкі прагрэс. Тады «Басовішча» на працягу некаторага часу было ніякім. Цяпер зноў штосьці мяняецца.



## Далучэнне

Адной з самых цікавых падзей, якія спадарожнічалі фестывалю, быў некалькіхвілінны перформенс «Далучэнне», паміж канцэртамі на другі дзень. Ігар Стокфішэўскі, літаратурны крытык і журналіст левай «Палітычнай крытыкі», супрацоўнік Артура Жміеўскага, ініцыятар гэтай акцыі, які, нягледзячы на аб'яву, не дабраўся на ўрочышча, разам з калегам, таксама звязаным з «Палітычнай крытыкай», у касцюмах іншапланецян падпісалі дакумент аб далучэнні Беларусі да ЕС.

— Мы — НЛА. Мы прыляцелі з космасу. Мы ляцелі, ляцелі, ляцелі над «Басовішчам» і раней над іншымі месцамі, дзе мы сустрэліся з беларусамі і вырашылі вось тут 20 ліпеня 2013 года стварыць цуд. І вось у гэты дзень Беларусь стане сябрам ЕС. Хочаце? У адказ прагучалі апладысменты і калектыўнае, хоць і не тлумнае «Тааак!». Да таго, каб узняць на мачту еўрасаюзны і беларускі сцягі папрасілі аднаго з гледачоў, Сяргея, ахінутага бел-чырвона-белым сцягам, які прыехаў з Беларусі. Хтосьці з натоўпу выгукнуў «Жыве Беларусь!», дзяўчына паблізу мачтаў праспявала: «Лія, лія, ляй, сюрпрыза не будзе...» і сцягі павіслі ўверсе мачтаў размешчаных на краі сцэны. Канцэрт працягваўся.

## Спынены фільм

Да гэтага, аднак, у вечар перад «Басовішчам» на свежавыкашанай паляне з відам на Беларусь Яна Арцёмчыка ў Мастаўлянах меў адбыцца паказ нямога даваеннага гісторыка-прыгодніцкага фільма (які дэманстраваўся коратка ў 1928 г.) «Кастусь Каліноўскі», які меў агучыць музыкай у сваім выкананні Сяргей Пукст, джазмен з Мінска. Прама тут, таму што адсюль родам кіраўнік паўстання 1863-1864 гг. Раней Павел Грэсь сказаў аб гэтай падзеі:

— Гэты паказ спасылаецца на 150-годдзе студзеньскага паўстання, якое мы адзначаем у гэтым годзе. — Я імправізую на клавішах да гэтага фільма ў другі раз. Усё, што акружае мяне тут, мае ўплыў на тое, як я зараз буду яго інтэрпрэтаваць, — абвясціў перад паказам Сяргей Пукст. — Гадоў пятнаццаць таму мне прыснілася, што абсталяванне прыехала сюды і пастаявіць тут помнік Каліноўскаму, ну і маюць яго паставіць на скрыжаванні ў вёсцы, — сказаў у сваю чаргу «Ніве» гаспадар паляны. На паказ прыйшлі мясцовыя жыхары, група з Гарадка, а спецыяльны аўтобус давёз гледачоў з Беластока. Хвілін праз пятнаццаць амаль саракахвілінная паказу, сеў ток. Нягледзячы на ўмяшанне хуткай тэхдапамогі, паказ не быў ужо адноўлены. Мабыць, нехта пашкодзіў бліжэйшы блок рэле.

## Кангрэснае адкрыванне

З некалькігадзінным спазненнем каля сцэны пачаўся Партызанскі кангрэс карыкатурыстаў (прадбачаны на 48 гадзін), на чале са скульптарам, перформерам, стваральнікам інсталяцый і відэафільмаў, сусветнавядомым творцам Паўлам Альтхамерам — у апошні час зацікаўленым Беларуссю і беларушчынай. Можна было на некалькіх, развешаных паміж дрэвамі, вялікафарматных палотнах маляваць, пісаць тое, што прыйдзе ў галаву. Любы чалавек мог таксама «далучыцца» са сваім малюнкам, карцінай, подпісам да іншых, і нават зафарбаваць іншую працу. Гэта было свайго роду працягам кангрэса, ініцыяванага ў мінулым годзе Біенале ў касцёле святой Альжбеты ў Берліне. Як і тады, так і зараз Альтхамер хацеў «даць голас карцінам, у надзеі, што агульная прастора створыць магчымасць сапраўднай дэбаты і абмену, з якога ніхто не выключаны». У працэсе стварэння сваёй часткі твора сказаў «Ніве»:

— Гэтая ідэя таксама тут вынікае з неабходнасці адкрыцця на іншых, таму што ў мяне самога ёсць такая патрэба адкрывання. У Берліне аказалася, што гэта быў выдатны спосаб адкрывання разам. У аснове таго, што лічыцца мастацтвам, ёсць супольнасць, значыць, мы вяртаемся да «пячораў», дзе мы пакідаем сляды сваіх уласных эмоцый, пакідаем сабе. Гэта называлі мы Кангрэсам карыкатурыстаў, але мы хацелі, каб злучыцца з тымі, хто прыйшоў на канцэрт. Гэта што спалучае візуальнае мастацтва з музыкай, гэта старая тэхніка, калі не самая старая, злучанне адзін з адным, у працэсе, які можна назваць запалам.

Дадаў таксама:

— Калі хтосьці прыйшоў сюды, каб зафарбаваць карціну кагосьці іншага, гэта значыць, што далучыўся да дыскусіі. Агрэсія ў гэтым выпадку гэта творчая праца, таксама адзінства, спосаб яе размеркавання. Гэта яе пераўтварэнне так, як і ўвесь працэс перамены. Сутнасць гэтага дыялогу гэта адабрэнне, ці, дакладней — як гэта назваў Артур Жміеўскі — згоды. Такі Кангрэс адбываецца ўсюды. Дзесьці гэта барацьба. Арганізацыйнай сілай з'яўляецца трывога, страх. Удзел у Кангрэсе з'яўляецца прызнаннем усімі яго парадку: мастакамі, спевакамі і тымі, хто прыехаў сюды толькі каб пасвавольнічаць. Гэта таксама форма талерантнасці, асабліва да сябе самога.



## Візавае расчараванне

На жаль, ценем на фестывалі ў гэтым годзе леглі візавыя праблемы, якія спасціглі як слухачоў-гледачоў, так і частку выканаўцаў. Арганізатары не дапільнавалі, каб у польскіх консульствах, асабліва ў Гродне і Мінску, быў запушчаны гэтак званы хуткі шлях, значыць, каб хутка і лёгка можна было атрымаць візу. Падвёў таксама грамадскі транспарт, які павінен быў быць забяспечаны адным з беларускіх тураператараў. На палатачным полі за кулісамі Барыка скардзіліся «Ніве» Лена і Жэня з Гродна:

— Прыехалі мы дзве, а павінна быць пятнаццаць. Прыехалі толькі мы, таму што мы ўжо мелі візу загадзя. Мы тут ужо ў чацвёрты раз. У консульстве нашым калегам, якім пад трыццаць, заявілі, што візы будуць выдавацца толькі тым, каму няма яшчэ 25 гадоў. Да панядзелка перад паездкай мы не ведалі, якая кампанія арганізуе паездку групы, і не было ніякага спосабу, каб атрымаць візу ў панядзелак на пятніцу. Мы былі нават гатовыя плаціць за візы колькі яшчэ трэба, але хутчэй не хацелі і так іх выдаць.

Павел Грэсь тлумачыў нам сітуацыю дыпламатычна:

— Гэта ўсё з-за камунікацыі паміж польскім бокам тут, і польскім бокам у Беларусі.

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

ISSN 0546-1960